# ЗВЯЗДА

17 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. субота, №№ 209—210 (21987—21988).

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 2 рублі






**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:

Мінск —6.40, 17.10, 10.30;
Віцебск —6.32, 16.58, 10.26;
Магілёў —6.29, 16.59, 10.30;
Гомель —6.24, 16.57, 10.31;
Гродна —6.56, 17.23, 10.27;
Брэст —6.53, 17.29, 10.36.

**МЕСЯЦ:**

Поўня 11 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ:**

Ерафея, Гурыя, Уладзіміра, Яўсея, Пятра, Паўла, Сцяпана, Веранікі.



# РОЗГАЛАС

## «ЦЭНЫ—ЗАМАРОЗІЦЬ, ЗАРПЛАТУ—ПАДНЯЦЬ!»

**У апошні дзень перад сесіяй Вярхоўнага Савета Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі разам з прафсаюзамі работнікаў аўтасельгасмаша і радыёэлектроннай прамысловасці плануюць правесці мітынг на плошчы Незалежнасці.**

Супраць чаго будуць пратэставаць прафсаюзы — здагадацца няцяжка. Няспынная інфляцыя, скарачэнне вытворчасці, рост беспрацоўя паставілі на мяжу галечы сотні тысяч працоўных. «Змычкай нацыянал-капіталістаў і наменклатуры» тлумачаць усе нашы беды ініцыятары мітынгу. Ад заканадаўцаў яны збіраюцца патрабаваць, каб новая Канстытуцыя гарантавала права на працу і сацыяльную абарону, каб Асноўны Закон прымаўся толькі праз усенародны рэферэндум, каб у Кодэксе законаў аб працы захаваўся ранейшы парадак звальнення работніка пасля ўзгаднення з прафсаюзам.

Якія меры па стабілізацыі эканомікі прапануюць незалежныя прафсаюзы? Яны патрабуюць захаваць дзяржаўнае рэгуляванне цэн на энергарэсурсы, дзіцячыя тавары, медыкаменты, замарозіць цэны на асноўныя прадукты харчавання, праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце, забараніць продаж праз камерцыйны гандаль тавараў, што выпрацоўваюцца на дзяржпрадпрыемствах. Прапануецца таксама знізіць падаткі і павялічыць мінімальны размер заработнай платы.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## «БЕЛАРУСЬ» У ПЯСКАХ

Пасля пятнаццацігадовага перапынку мінскі трактарны завод аднавіў знешнеэканамічныя сувязі з Саудаўскай Аравіяй.

— Гэта стала магчымым у час наведвання прадпрыемства дэлегацыяй, узначальваемай шэйхам Раджхі,—расказаў начальнік камерцыйнага бюро заводскай знешнегандлёвай фірмы Вадзім Пранько.—Гасцей зацікавілі трактары «Беларусь»—МТЗ-82, якія валодаюць тэхнічнымі якасцямі, зручнымі для працы ў пустынях. Яны надзейныя і маюць высокую праходнасць. Гэта якраз і задаволіла арабскіх спецыялістаў. Сто трактароў, прадугледжаных кантрактам, ужо гатовыя да адпраўкі ў Саудаўскую Аравію.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## НА РОДНУЮ МОВУ

ОРША. З 31 кастрычніка гарвыканком пераводзіць справаводства на беларускую мову. Такое рашэнне прынята ў адпаведнасці з Законам аб мовах у нашай рэспубліцы, аднак датэрмінова. Адзін з аддзелаў гарана ўжо паспрабаваў свае сілы ў роднай мове, рыхтуючы праекты дакументаў сваёй службы па-беларуску на працягу гэтага года.

## З ЖЫЛЛЁМ БУДУЦЬ ЦЯЖКАСЦІ

МІНСК. У капітальным будаўніцтве сталіцы Беларусі склалася цяжкае становішча. За 9 месяцаў бягучага года асвоена 9,5 мільярда рублёў, што ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года менш на 28 працэнтаў. На 1992 год было запланавана пабудаваць амаль 800 тысяч квадратных метраў жылля, а фактычна з пачатку года яго ўзведзена ўсяго 405 тысяч.

## ПАЎГАДЗІНЫ ПРАСТОЮ— ДЛЯ НЕМЦАЎ ГЭТА ШМАТ

Група немцаў, якія прадстаўляюць дзелавыя колы Германіі, нанесла нядаўна візіт у Беларусь. Гаворка ішла аб удзеле ў будаўніцтве розных аб'ектаў на тэрыторыі рэспублікі. Немцы хочуць рэканструяваць некалькі будынкаў у Мінску, а таксама пабудаваць фабрыку па вытворчасці вокнаў і бізнес-цэнтр непадалёку ад гасцініцы «Юбілейная». Мэр Мінска абяцаў СП «Інвестмент і Кансалцінг» «зялёнае святло» гэтым пачынанням.

**РІД.**

## КУРТКІ З ЧАЛАВЕЧАЙ СКУРЫ Ў ВІЦЕБСКУ НЕ ШЫЛІ

**ВІЦЕБСК. Пасля нядаўняга забойства ў моргу абласны цэнтр пачаў абрастаць жудаснымі чуткамі. У прыватнасці, людзі сцвярджалі, што ў моргу трэцяй гарадской клінічнай бальніцы была наладжана цэлая вытворчасць па пашыву куртак са скуры... нябожчыкаў. Мясцовыя журналісты звярнуліся да следчага пракуратуры Першамайскага раёна Віцебска В. Высоцкага, які асабіста прымаў удзел у вобыску морга. Той рашуча абверг чуткі і растлумачыў, што абвінавачваемы ў забойстве санітар, якому нязручна было дабірацца да месца работы, уладкаваўся жыць у падсобцы морга, дзе ў вольны час падзарабляў тым, што шыў скураныя курткі. Аднак не з чалавечай скуры.**

## ДАПАМАЖЫЦЕ ДЗЯЎЧЫНЕ

ГРОДНА. Толькі тэрміновая аперацыя ў Германіі можа выратаваць вучаніцу 9 класа школы-гімназіі Таццяну Мацейка. Дыягназ яе хваробы — астэасаркома правай вялікагалёначнай косці. Хутка неабходна сабраць 50 тысяч долараў. Для тых, хто мае добрае сэрца і магчымасць дапамагчы дзяўчыне, — разліковы рахунак школы-гімназіі ў Кастрычніцкім філіяле «Камбанка» горада Гродна № 609557 МФА 406552.

## «БЕЛВЕСТ» ТРЫМАЕ МАРКУ

ТАЛАЧЫН. **(Т. Махтадуй).** Летась сумеснае заходнегерманскае прадпрыемства «Белвест» заключыла з раёнам дагавор на пастаўку абутку пры ўмове, што ў райцэнтры будзе адчынены фірменны магазін. Ён павінен мець палепшаны інтэр'ер, рэкламу, сімволіку. Толькі месяц было дадзена на вырашэнне гэтага пытання. У памяшканні піўбара, якое ў апошнія гады пуставала, у тэрміновым парадку быў зроблены капітальны рамонт. Усё тут абсталявана так, што не сорамна ні перад строгімі педантычнымі немцамі, ні перад людзьмі, якіх абслугоўвае магазін.

Сёлета «Белвест» паставіць у раён 16 тысяч пар абутку. З пачатку года паступіла ў продаж 13.200 пар мадэльных мужчынскіх і жаночых ботаў, туфляў, басаножак. Ну, а той, каму патрэбны больш танны абутак, можа набыць яго ў райбыткамбінаце. Штомесячна ў абутковым цэху выпускаецца каля 250 пар ботаў.

## ПАХАВАЛЬНАЯ ПРАЦЭСІЯ НА ТРАСЕ ВІЦЕБСК—МІНСК

ВІЦЕБСК. Чарговыя дзве машыны з браніраванымі кузавамі, запоўненыя небяспечным для здароўя людзей грузам, накіраваліся з Віцебска ў бок Мінска, дзе на бліжэйшых «могілках» радыеактыўных адходаў і павінны пахаваць свой страшны скарб. А ўсяго сем такіх машын з дзвюма тонамі радыеактыўнага шлаку ў кожнай зніклі з вачэй з пачаткам работ па дэзактывацыі шасці дамоў на віцебскіх вуліцах Рэвалюцыйнай і Кандрацьева.

Некалькі дзесяцігоддзяў у гэтых дамах жылі людзі, і толькі год назад выявілася, што ў якасці ўцяпляльніка ў будынках быў выкарыстаны шлак з віцебскага аб'яднання ВЗЭП, што ўтрымлівае радый і торый. У асобных кватэрах радыеактыўны фон дасягаў 400 мікрарэнтген пры натуральным 12—20 мікрарэнтген.

Намаганнямі ўладаў жыльцы ў рэшце рэшт былі адселены, сталярнае «начынне» дамоў умомант раскрадзена, а вываз і захаванне радыеактыўнага шлаку расцягнулася на доўгія месяцы, што ў многім звязана з фінансавымі праблемамі ВЗЭПа (захаванне толькі аднаго кілаграма радыеактыўнага рэчыва каштуе 117 тысяч рублёў) і вялікай працаёмістасцю работ па дэзактывацыі. І ўсё-такі, хоць і чарапашымі тэмпамі, а справа ідзе.

## ЯНОЎСКІ ВАМ НЕ БАРАНОЎСКІ

**ВІЦЕБСК. Днямі вярнуўся дамоў славуты беларускі баксёр-прафесіянал Вячаслаў Яноўскі. Алімпійскі чэмпіён шэсць дзён правёў у Рызе, дзе баксіраваў з Віктарам Бараноўскім, «профі» з Варонежа. Бой працягваўся 6 раўндаў. Перамогу па ачках атрымаў Яноўскі.**

**На маё пытанне, колькі ж зарабіў ён за матч, Слава ўсміхнуўся і адказаў: «Увогуле, гэта сакрэт, але мне гэтага хопіць».**

**Наступны бой Яноўскі плануе правесці 25 лістапада.**

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# Адзіны мой, чаканы мой...

**Аб чым маўчаць старыя дрэвы, што хаваюць яны за халодным туманам, што маюць сказаць ды не могуць? Мы не зразумеем.**

**Шмат перанеслі яны, падтрымліваючы адно аднаго. Колькі вятроў-ураганаў праляцела над іх полем, колькі разоў карані рэзалі плугі «пераўтваральнікаў» прыроды, колькі атруты вылілі людзі на гэту зямлю.**

**Ці не такі ж лёс і ў саміх людзей? У адзіноце здраджваюць нават дужыя, гнуцца, гінуць.**

**...Ворага народа Эрнста Хашкоўскага судзілі нядоўга. Загрымеў юнак у засценкі ГУЛАГа па крывавым пяцьдзесят восьмым артыкуле. Колькі мільёнаў такіх, як ён, не маючых віны, былі сцёрты ў лагерны пыл? Жудасны быў час: сыны даносілі на бацькоў, каханыя адракаліся адзін ад аднаго. Калі энкэвэдысты арыштоўвалі ўначы—пасля раніцы чалавека ўжо не чакалі.**

**Марыя чакала яго доўгія васемнаццаць гадоў. І ён вярнуўся рэабілітаваным.**

**На крылах халодных вятроў пралятае яшчэ адзін год. Кажуць, будзе лютая зіма. Няхай не загінуць у яе сцюжы старыя дрэвы. Няхай дачакаюцца вясны старыя людзі.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**(Эрнст Пятровіч і Марыя Васільеўна — мінчане. Жывуць удваіх на свае пенсіі. Здароўе Эрнст Пятровіч, нягледзячы на пакуты, захаваў нядрэннае. А вось жонка хварэе ўсё часцей).**






### АБ АДКРЫЦЦІ ДЗЕСЯТАЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Адкрыццё дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання адбудзецца 20 кастрычніка 1992 года ў 9 гадзін 30 хвілін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыя народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі на дзесятую сесію, будзе праводзіцца 19 кастрычніка 1992 года з 9 гадзін да 20 гадзін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

# «Барысаўскія «ракфелеры» вельмі ўтульна адчуваюць сябе на салдацкіх могілках... Дзіка, але факт...»

**Кіраўнік беларускага парламента наведаў Барысаў і некаторыя гаспадаркі раёна**

### МЯСЦОВЫЯ МАТЫВЫ НА ФОНЕ СЕУЛА І РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА

Па прычыне традыцыйнай звычкі, Станіслаў Станіслававіч літаральна з першых гадзін знаходжання на барысаўскай зямлі ўшчэнт сапсаваў адладжаны гаспадаркамі «сцэнарый», накіраваўшы эскорт не прама на запланаваныя аб'екты, а ў месцы, зусім непапулярныя сярод мясцовай адміністрацыі. У прыватнасці, да Старшыні Прэзідыума ВС даўно ўжо даходзілі чуткі, што ёсць у цэнтры Барысава даваенны барак, у якім некалькі пакаленняў гараджан выраслі ва ўмовах, нічога агульнага не маючых з чалавечымі.

Апынуўшыся на месцы, усе ледзь не аслупянелі. Нават уявіць тое, што паўстала перад вачымі прысутных, было цяжка. З'явілася такое адчуванне, што літаральна ўчора дзесяць сем'яў, што насяляюць сталінскі барак, былі падвергнуты масіраванаму абстрэлу варожай артылерыі, а потым заліты трохдзённым ліўнем. Можна доўга апісваць гэты жах, але пашкадуем сэрцы нашых чытачоў.

Выслухаўшы скаргі жыльцоў, а дакладней будзе сказаць — насельнікаў гэтай хаткі на курыных ножках, Шушкевіч узяў курс у некалькі іншым напрамку, у прыватнасці, туды, дзе за рэкордна кароткія тэрміны як грыбы пасля дажджу на свет божы з'явіліся сапраўдныя палацы, здавалася б, такіх жа простых смяротных, як і жыльцы дома на Герцэна, 2-а. Узор архітэктурнага дойлідства 90-х гадоў, гэтыя трохпавярховыя крэпасці міжволі прымушалі затаіць дыханне любога прахожага. Усё б добра, калі б не ўлазіць у «кухню» гэтых будаўніцтваў. Як высветлілася, дзве вілы пабудаваныя... на касцях нашых дзядоў. Пляцоўкай пад іх фундаменты сталі акуратна зраўнаваныя з зямлёй могілкі, што знаходзіліся насупраць савецкага ваеннага шпіталя. Ніводны з наваяўленых прэтэндэнтаў на жылплошчу ні на секунду не задумаўся, дзе дастаць будматэрыялы ці рабочую сілу. Уладальнік трохпавярховага катэджа, нехта зубны тэхнік Шалак, узвёў свой гмах усяго за паўгода. Дарэчы, падобнае бязмежжа на Барысаўшчыне сустракаецца густа і часта. А аб'ём такіх работ цягне далёка не на адзін мільён. Увогуле, вось што сказаў Станіслаў Станіслававіч у час адной з сустрэч з грамадскасцю горада.

— Больш чым 70 гадоў у нас пісалі аб тых жахах, якія пануюць у тым, «звярыным» свеце. І абавязковыя пункты — вялікая галеча і недасягальная раскоша. Але сёння я найбольш задаўся пытаннем, ці можна хаця б ваш Барысаў параўнаць з Рыо-дэ-Жанейра, дзе ёсць раёны з найвялікшай беднасцю і адпаведна прэстыжныя


(Заканчэнне на 7-й стар.).


«ЗВЯЗДА»-93

# А хто там ідзе?.. Пытанне застаецца

Мой трохгадовы сын, пакуль рос у лоне сям'і, зусім упэўнена гаварыў: дзякуй, гузік, дабранач. Зараз жа, калі паабціраўся ў асяроддзі сваіх аднагодкаў, пачаў гаварыць: адаравалася гузіка...

Мая васьмідзесяцігадовая бабуля ўсё жыццё гаварыла і гаворыць на чысцюткай беларускай мове. Дакладней, на яе цэнтральным, мінска-маладзечанскім дыялекце:

— Учора Досін казоў — у магазін хлеб прывезлі. Па дзесяць рублёў. А пярун іх ведае, можа, каб буханку ўзёў?..

У бабы Веры на печы падключана лямпачка. На зімовыя вечары — час чытання кніжак. Толькі чытае яна ўсё жыццё... па-руску. А па-беларуску, кажа, не магу, не прывыкла: на тое яна і кніга, што там усё па-кніжнаму...

Кожны з вас на гэтую тэму прывядзе свой сямейны прыклад, свае пакутлівыя пытанні: і што гэта за двухмоўе ў нас такое касабокае? І колькі будуць працягвацца гэтыя нестасункі ў роце: адзін там язык ці два, і каторы—родны?

Вы заўважылі, дарагія чытачы, што і нашы газеты выразна размежаваліся па гэтай праблеме? Адны — за «двухмоўе», за «языки-братья», другія—за тое, каб беларуская мова была ў сваім доме паўнапраўнай гаспадыняй.

Думаем, вы беспамылкова вызначыце тут пазіцыю «Звязды». Мы дзякуем **нашым** чытачам, якія сваёй падпіскай выказваюць падтрымку газеце. Але скажам і чытачам пакуль **не нашым:** у наступным годзе абыходзіцца без беларускай мовы вам будзе ўсё больш і больш складана.

У адпаведнасці з Законам аб мовах па-беларуску будуць афармляцца дакументы, рэклама, службовая перапіска, маркіравацца тавары, рабіцца аб'явы, прымацца экзамены... Па-беларуску будуць пачынаць і прадаўжаць вучыцца дзеці.

А значыць, з дня ў дзень вам будуць гарантаваны пытанні:

— А што такое локшына?

— А воцат?

— Як перакласці слова «вырай»?

Зрэшты, гэта яшчэ кветачкі. Галоўнае, што кожны з нас захоча высветліць: а што будзе далей? Ці сапраўды адолеем гэта Адраджэнне? Ці не будзе гэта часовай палітычнай гульнёй?..

Ужо год, як «Звязда» завяла рубрыку пра ўсё гэта. Мы назвалі яе «Беларушчына». Штотыднёва, па пятніцах, мы пісалі не толькі пра словы і слоўнікі, мову і практыку маўлення, але і пра з'явы нашай культуры, падзеі нашай гісторыі, сімвалы нашай дзяржаўнасці, пра асоб, чым святлом азараўся наш шлях Адраджэння

Мы атрымліваем на яе публікацыі шмат водгукаў яшчэ і таму, што яны прысвечаны штодзённым, канкрэтным праявам жыцця—як на Беларусі, так і ў зямляцкіх асяродках за яе межамі.

«Беларушчыну» мы бяром і ў наступны год. Кола яе тэм акрэслена, але погляд на іх, як мы мяркуем, будзе больш аб'ёмным: не толькі культуралагічным, але псіхалагічным, сацыялагічным. Мы не збіраемся закрываць вочы на тое, што палітыка беларусізацыі выклікае не толькі падтрымку, але і нездаволенасць, раздражненне. І каб наступны год не стаў годам грамадзянскага процістаяння на моўных франтах, з гэтым трэба разбірацца. Што стаіць за такімі праявамі: проста лянота чыноўнікаў, «лямант шавіністаў» ці нейкія мутацыйныя змены ў адносінах паміж нацыяй і асобай, дзяржавай і нацыяй?

Нам, як і вам, дарагія чытачы, хочацца дайсці тут не толькі да разумення прынятых парламентам законаў, але і да разумення аб'ектыўных заканамернасцяў.

**Алена ЦІХАНОВІЧ.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**«ЗВЯЗДА»** Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63850** (індэкс выдання)

**«ЗВЯЗДА»**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 14 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ»—63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА «ЗВЯЗДЫ» НА ПАЎГОДА —120 РУБЛЁЎ.**

# БЕЛАРУШЧЫНА

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля ТЮГа па п'есе Я. Купалы «Прымакі». Кацярына — заслужаная артыстка Беларусі Вера КАВАЛЕРАВА і Мацей—артыст Юрый КУХАРОНАК.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. (БЕЛІНФАРМ).

МУЗЕЙНАЯ ЦІШЫНЯ

## Хадзіла, зняўшы чаравікі

У жніўні мы з сяброўкай выбраліся ў сталіцу. Паездка была не «па магазінах», а для душы. Зайшлі ў Купалаўскі сквер, пастаялі ля помніка песняру, наведалі Літаратурны музей Янкі Купалы. Не буду гаварыць, з якімі пачуццямі блукалі мы па пустых залах музея. Выйшлі мы з яго збянтэжаныя і сумныя, бо не пабачылі там ніякіх новых матэрыялаў, акрамя лімаўскай публікацыі пасля прэм'еры «Тутэйшых». У гэтым музеі я была 20 гадоў таму назад, яшчэ студэнткай. Потым доўгі час не жыла на Беларусі. І вось я зноў дома, на Бацькаўшчыне. Столькі ўсяго адбылося ў жыцці! А ў музеі, здаецца, нічога не змянілася. Гэта не папрок у адрас супрацоўнікаў музея. Я ўпэўнена, што яны сумленна працуюць, многа новага сабралі пра Купалу. Але аблічча музея трэба мяняць. Нешта ёсць у ім афіцыяльнае, стандартнае, што не можа закрануць душу, усхваляваць.

Безумоўна, гэта наша асабістая думка. Але адна дэталь непрыемна нас уразіла, болем кальнула ў сэрца. Надпісы пад некаторымі экспанатамі зроблены такім чынам: на сцяну прылеплены медыцынскі пластыр і на ім напісаны тэкст. Я разумею, што музеі знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Але ж такіх прыкрых, нявартых Купалы дробязей не павінна быць ні пры якіх абставінах.

Пасля Купалаўскага музея мы зусім нечаканна трапілі ў музей Багдановіча.

І адчулі нешта іншае. Што ў музея ёсць Душа. Душа Багдановіча. Душа мастака, якому, напэўна, ніхто не перашкаджаў ажыццяўляць тую сваю задуму. І душа супрацоўнікаў, ветлівых, мілых і на рэдкасць зацікаўленых людзей. На жаль, як і ў Купалаўскім музеі, мы былі адзінымі на той момант наведвальнікамі. Але як нас сустрэлі! Быццам бы менавіта нас і чакалі. Прызнаюся, што мне ніякавата было хадзіць абутаю ў гэтым незвычайным цёплым доме, дзе, як мне здавалася, вітаў дух нашага Максіма. Я зняла абутак, сказаўшы, што вельмі ногі стаміліся...

Цяпер ведаю, што прыеду сюды не раз і з сябрамі, і з сям'ёю, і з вучнямі.

**Галіна ЦЯЛІПКА, настаўніца.**

г. Барысаў.

ФАЛЬКЛОР

## «Хто бацькоў не слухае, той у пальцы дзьмухае»

— раптам пачула ў чарзе пра цукар. Азірнулася. Бабулька ўшчувала за нейкую шкоду свайго 6-гадовага ўнука. Хлапчук стаяў, апусціўшы вочы долу і ледзь не плакаў. Здаецца, ніякія крыклівыя маралі-павучэнні не ўспрымаліся б так уражліва, як гэтая трапная народная прымаўка. Тады і падумалася: як рэдка ўжываем мы іх у штодзённым жыцці. Забыліся? Ці наўмысна адварочваемся ад трапнага народнага слова, якое з адценнем лёгкага гумару перадае філасофію жыцця, навучае без ментарскіх нотак? Сёння мы хочам нагадаць вам, паважаныя чытачы, некаторыя спрадвечна беларускія прыказкі і прымаўкі.

- ✦ **Пільнуй гаспадаркі — будуць у гаршку скваркі.**
- ✦ **Не хочаш у маладосці працаваць, будзеш на старасці з торбачкай танцаваць.**
- ✦ **Не работа сушыць, а турбота.**
- ✦ **Работа — не забота, забота — калі няма работы.**
- ✦ **Пытайся не ў старога, а ў бывалага.**
- ✦ **Хто сядзіць на гліне, ніколі не загіне, а хто сядзіць на пяску, той есць хлеба па малым куску.**
- ✦ **Жаніцца, як і паміраць, не спяшайся.**
- ✦ **Бяда ў тым доме, дзе куры пяюць, а пеўням волі не даюць.**
- ✦ **Да пяці гадоў песці дзіця, як яечка, да сямі пасі, як авечку, тады выйдзе на чалавечка.**
- ✦ **За добрым мужам і варона жона, а за благім і княгіня загіне.**
- ✦ **Тады трэ было секчы, як упоперак лаўкі мог легчы.**
- ✦ **Золата і ў краме дастанеш, а розуму не прыставіш.**
- ✦ **Па закону жыць — і пеўня кукарэкаць адвучыш.**
- ✦ **І кошка бліноў напячэ, калі сала сцячэ.**
- ✦ **Чым за морам віно піць, лепей з Нёмана вадзіцу.**
- ✦ **Лёгкі здабытак — лёгкі пражытак.**
- ✦ **Не глядзі на мяне, на фэст ідучы, а глядзі на мяне, лён тручы!**

**Падрыхтавала Уладзя ТАЦЦЯНЧЫК.**



## І тчэ, забыўшыся, рука

**І двух аднолькавых паясоў не знайсці ў калекцыі, якую стварыла за сваё доўгае жыццё Юлія Карпаўна ВАРАБЕЙ з вёскі Пярховічы Баранавіцкага раёна. Пляценнем гэтай дэталі беларускага нацыянальнага касцюма захапілася яна яшчэ дзесяцігадовай дзяўчынкай. Цяпер ужо і не злічыць, колькі прыгожых паясоў стварыла майстрыха.**

**Яе ўнікальныя работы экспанаваліся на многіх выстаўках, адзначаны Ганаровымі дыпломамі і граматамі. Умее Юлія Карпаўна таксама ткаць прыгожыя абрусы і пакрывалы. Але больш за ўсё ёй па душы тонкая работа па стварэнню паясоў.**

Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛІНФАРМ).

ШОЎ ПАЭТ ПА ВОСЕНІ

## «У радасці свае парадкі, свае крыжы, свае вянцы...»

Як паэт Леанід Дранько-Майсюк сцвердзіў сябе ўжо першай кніжкай, невялічкай і нятоўстай, выдадзенай у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Першая кніга паэта» ў 1983 годзе. Усе вершы гэтага паэтычнага зборніка напісаны аўтарам у час вучобы ў Літаратурным інстытуце ў Маскве. У іх адкрываўся новы, нечаканы, чароўны свет, дзе «ігруша бегла па мяжы», «навальніца ў хвартух каменне награбае», «бусел-зух кубло майструе і рассыпае па імку свой клёкат, толькі дуб не чуе. І там бабулька ў кошык свой той клёкат з долу сабірае». Погляд паэта з язычніцкім светаўспрыняццем канцэнтраваўся то на ручаі, то на старым ласі, то на лодцы — для яго важна было спасцігнуць навакольны свет у дыялектычным адзінстве, паказаць далучанасць чалавека да ўсяго, што адбываецца на зямлі. Звяры, прырода, рэчы, што існуюць у гэтым свеце, поўныя для Леаніда Дранько-Майсюка свайго першароднага сэнсу, успрымаюцца аб'ёмна, як у стэрэакіно, дзе захаваны спрадвечны каларыт і колер Беларусі: сівыя кроплі вады, светлы абрус, белая кашуля, сярэбраны яблык, шэры палескі ранак. Філіграння адточаныя, празрыстыя, як алмазы, словы, напоўненыя плёскатам палескай ракі, лясным рэхам, настоеныя на духмяных травах і водары кветак, гучаць музыкай, прызнаннем у любові роднаму краю.

Пасля паэтычнага зборніка «Вандроўнік» у Леаніда Дранько-Майсюка выйшлі яшчэ чатыры кніжкі — «Над пляцям» (вершы), «Тут» (эсэ і вершы), «Проза радасці» (вершы), «Пра такое, як я» (апавяданні). У кожнай сваёй новай кніжцы Дранько-Майсюк новы і абсалютна самабытны, быццам зваліўся з космаса на гэтую грэшную зямлю, якая ніяк не перастане яго здзіўляць, альбо нечакана трапіў сюды з васемнаццатага стагоддзя. Са слоў ён лёгка, нібы той разьбяр з дрэва, стварае карункі надзвычайнай прыгажосці і раскідвае іх па чорнаму жвіру гародчыка каля бацькоўскай хаты. Усё звычайнае, будзённае, трывіяльнае ў яго бачанні становіцца ўзнёслым, рамантычным, поўным загадкавасці. Паэт чыстай красы і радасці жыцця — хіба гэта не цуд у сённяшнім палітызаваным, наэлектрызаваным флюідамі катастроф свеце? Калі вы забыліся, шаноўныя чытачы, што свет трымаецца на каханні, дабрыні, чытайце вершы беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка.

**Таццяна АНТОНАВА.**



Фота Анатоля КЛЯШЧУКА.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

## Пяць вершаў для А.

◆

Улагоджаны «Батлейкаю»,
Смехам лялечных каляд —
За цябе, сваю верленінку,
П'ю шампанскі далягляд.

З нечаканасцю шляхетнаю,
Забягаючы ў мой верш,
Ножку мне сваю балетную
Пры сустрэчы падаеш...

На струне сямейнай рызыкі,—
На пакутлівай струне, —
Столькі кветак, столькі музыкі
Адкрываеш для мяне!

Ты гаворыш, белай флёксаю
Атуляючы няўзнак:
«Мы — шчаслівыя па-восеньску,
Гэта лепей, чым ніяк».

Ты гаворыш, паслухмяная
Той лагодзе, што не раз
З простай ніткі канаплянае
Ткала восеньскі атлас...

Мы — шчаслівыя, я ведаю,
І шчаслівы гэты свет,
І навокал з'явы светлыя —
То батлейка, то балет.
25 верасня 1992

◆ ◆

Каханая, мне трыццаць пяць —
Век віртуознае ігры!
І я хачу цябе кахаць,
Струну выводзячы з імглы...

Тvae мужчыны, што былі,
Мае жанчыны, што былі,
У незваротнасць адплылі,
У незваротнасць адплылі.

Хвіліны лепшыя мае —
Калі, заўсёды малады,
Мой госць пяшчотны спазнае
Тvae галіны і плады.

І ты мне шэпчаш: «...трыццаць пяць
Каханы мой, а хоць і сто...
Я буду так цябе кахаць,
Як не кахаў цябе ніхто!

Тvae жанчыны, што былі,
Мае мужчыны, што былі —
У незваротнасць адплылі,
У незваротнасць адплылі...

Хвіліны лепшыя мае
Цвітуць адна перад адной,
Калі глыбокае пяе
Тваё дыханне нада мной».

Каханая, жыццё ў жыцці —
Як мястэчковая краса...
І нашым коўрыкам цвісці,
І нашай мальве не згасаць;
І нашым ластаўкам працей

Цяпло шукаць у снах чужых,
Калі афінская пасцель,
Як сад, не выпускае іх.
19 жніўня —27 жніўня 1992

◆ ◆ ◆

Ты,— памножаная на неба
І падзеленая на страх,—
Здабываеш са смутку срэбра
Старажытных вясёлых драхм.

Ты далей, чым слова д а л ё к а е,
І чысцей за ўсе халады...
Неўрадлівы пясок сірока
Засыпае твае сляды.

Ты ўжо чуеш, як свечка плача
На блакітным летнім акне,
Пройдзе восень над Белай дачай
І патоне ў нашым віне.

Што ж цябе, дарагая, страшыць?
Ну, адкуль ён, адкуль ён — страх?
На віне пацалункі нашы,
Дзякуй богу, не на слязах.

І калі я твой брат старэйшы,
То паслухай мяне хоць раз:
Багдановіч апошнім вершам
Ад самоты пазбавіў нас,—

А ў самотнейшыя хвіліны
Уначы, пад газніцы бліск,
Не ў Вільню — пісаў у Афіны
Да Вацлава нясмелы ліст.
30 жніўня 1991

◆ ◆ ◆ ◆

У майстэрні, дзе ружам не цесна,
Алкагольным суцішаны дном,
Я пішу на паперы нябеснай,
На паперы, што пахне віном.

Я пішу пра салодкую цьмянасць —
Толькі з ёю магу маладзець;
Дзе каханне, а дзе закаханасць
Аніяк не хачу зразумець...

Залатою на постаці ломкай,
Той, якую Паэзія жне,
Я цябе называю саломкай,
Што кладзецца на вусны мае.

Над саломкаю буры хадзілі
І віхор успамінаў такі,
Што самохаць ляціць мой гадзіннік,
Нібы чорная птушка, з рукі.

Я на кожнай прачытваю стрэлцы,
Як спяшаешся ты да дзяцей,—
Навальнічная рэўнасць у сэрца
Залятае часцей і часцей.

Я запомню сірочасць букета —
Залацістую золь на траве!—
Ён шаптаў нам: у радасці гэтай
Алкагольнае шчасце жыве.

Я майстэрню сваю аплятаю,
Замыкаю на ружы-замкі
І з каленяў тваіх вышываю
Фіялетавыя васількі.
24 жніўня 1991

◆ ◆ ◆ ◆ ◆

Калі званілі ў Кафедральным,
Спыніла Свіслач на хаду
У нейкім одуме астральным
Сваю зялёную ваду...

З маёй майстэрні вечаровай,
З кансерваторскага двара
Па беднай вуліцы Гандлёвай
Пайшла пяшчотная сястра.

У радасці свае парадкі,
Свае крыжы, свае вянцы —
Такія светлыя пачаткі
І вельмі сумныя канцы.

Я гэтай радасці не кіну
І, мусіць, ад таго памру,
Што аддаю сваю жанчыну
Кансерваторскаму двару.

У надакучлівыя оды
Я патанаю з галавой,
Мне застаецца тонкі водар
Яе сукенкі лугавой.

І застаецца мне прастора,
І супакойваюся зноў,
Што пад аховаю сабора
Яна вяртаецца дамоў.

19 жніўня 1991

## Як дзядзька Колас супрацоўнічаў з нашай газетай

**УСПАМІНЫ СТАРОГА ЗВЯЗДОЎЦА**

Пасля вызвалення Мінска ад фашысцкіх акупантаў мне давялося працаваць загадчыкам аддзела культуры газеты «Звязда». Нялёгкія гэта былі гады. Не толькі для працаўнікоў гарадоў і вёсак, разбураных дашчэнту акупантамі, але і для работнікаў друку, журналістаў. Бадай, самая вялікая цяжкасць была ў тым, што газета, асабліва ў першыя гады, не мела аўтарскага актыву.

Выйсці з нялёгкай сітуацыі часта дапамагалі беларускія пісьменнікі, якіх, дарэчы, пасля вайны засталося нямнога (адны загінулі на франтах, другія былі рэпрэсіраваны). Іх няспынна атакавалі газетчыкі з просьбай напісаць матэрыял на тую ці іншую тэму, даць верш, апавяданне, урывак з аповесці ці рамана.

Асабліва даставалася народнаму паэту Якубу Коласу (яго з павагай называлі «дзядзька Колас»). Часта назаляў яму і я з просьбай выступіць у «Звяздзе». Трэба сказаць, што ён з вялікай павагай ставіўся да яе. Нягледзячы на вялікую занятасць і не надта добрае здароўе, ён амаль ніколі не адмаўляў.

Жыў Якуб Колас пасля вайны ў драўляным доміку-пяцісценку, пабудаваным беларускім урадам спецыяльна для яго (на гэтай тэрыторыі быў пасля пабудаваны двухпавярховы асабняк, дзе зараз месціцца Літаратурны музей народнага паэта). Бывала, зойдзеш да Канстанціна Міхайлавіча з чарговай просьбай напісаць верш або водгук на якую-небудзь важную падзею, а ён, перш чым даць згоду, паскардзіцца:

— Не шкадуеце вы мяне. Зусім не шкадуеце. Тузаеце... ды тузаеце... «Звязда» тузае, «Савецкая Беларусь» тузае; «Полымя» і «Літаратура і мастацтва» тузаюць, «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі» тузаюць, цэка партыі тузае, Вярхоўны Савет тузае. А тое не ведаюць, што здароўе маё на нітках трымаецца. Асабліва пагоршылася, здало пасля смерці жонкі Марусі. І пашкадаваць мяне цяпер няма каму...

Але пасля адгукаўся на патрэбы рэдакцыі. Здараліся пры гэтым «нярштатныя» сітуацыі. Памятаю, да трохгоддзя з дня перамогі над гітлераўскай Германіяй паэт напісаў верш для «Звязды». Я прынёс яго ў рэдакцыю і паклаў на стол сакратара Вячаслава Палескага. Ён пахваліў мяне за «аператыўную арганізацыю матэрыяла» і пачаў чытаць верш. Чытаў і перад некалькімі радкамі ставіў алоўкам пытанні. Потым незадаволена спытаў мяне:

— Ты сам чытаў гэты верш?

— Чытаў.

— І верш спадабаўся табе?

— Не зусім. Асобныя радкі выклікаюць сумненне, зніжаюць мастацкую вартасць.

А радкі гэтыя былі такога зместу: пасля перамогі над лютым ворагам воін Чырвонай Арміі ідзе па Еўропе дамоў у лапцях з торбай на плячах і з кіем у руках...

— Ведаеш заганы твора,— перабіў мяне сакратар,— а прапануеш для друку. Верш трэба дапрацаваць. Асобныя радкі паправіць. Зрабі гэта сам. Ты некалі, ведаю, пісаў вершы. Або звяжыся з Коласам. Хай паправіць верш. І неадкладна.

Не на жарт збянтэжаны, я катэгарычна адмовіўся правіць верш народнага паэта. Ды і ісці да яго з просьбай дапрацаваць верш я не адважыўся. Бо не быў упэўнены, што ён паслухаецца мяне, малавядомага літаратара. Хоць быў выпадак, калі Колас давяраў мне правіць свой допіс-водгук, прыдумаць яму загаловак. Але дарабляць верш знакамітага паэта я адмовіўся катэгарычна.

— Не пойдзеш да яго, не выканаеш заданне рэдакцыі, атрымаеш вымову,— пагразіў сакратар.

Каб вырашыць гэтае спрэчнае, далікатнае пытанне, вырашылі параіцца з рэдактарам Д. Драгуном. Хоць у паэзіі ён разбіраўся слаба, затое меў аўтарытэт — быў членам ЦК КПБ і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Вырашылі ад імя рэдактара запрасіць Я. Коласа ў рэдакцыю, дзе сам кіраўнік газеты аўтарытэтна папросіць, каб ён паправіў няўдалыя радкі верша.

З нядобрым настроем пайшоў я да Коласа. А раптам адмовіцца ісці? А можа, дома няма, пайшоў куды? Ён быў дома. Але адчуваў сябе сапраўды кепска. Сморгаючы носам і пакашліваючы, ляжаў у кажушку на канапе. На просьбу зайсці ў рэдакцыю ён злосна хмыкнуў і спытаў:

— Навошта раптам я спатрэбіўся вашаму рэдактару?

Я, вядома, не асмеліўся сказаць праўду. Стрымліваючы хваляванне, прамармытаў:

— Дужа прасіў зайсці.

— Што ж,— цяжка ўздыхнуў Колас,— калі вельмі просіў, мушу пайсці. Хоць здароўе маё на нітках трымаецца...

Ён адзеў паліто, капялюш, узяў кій, і мы выйшлі з хаты. Ішлі моўчкі. Ён тупаў уперадзе, я — за ім услед. Так хацелася загаварыць з ім, спытаць аб чымсьці. Але не асмельваўся: адчуваў сябе перад ім вінаватым. Не сказаў праўды — навошта запрасілі яго, хворага, у рэдакцыю. Гэта проста несумленна. Бо так ці інакш пра мае хітрыкі ён хутка даведаецца.

Рэдактар чакаў Коласа ў сваім кабінеце. Яны пaздароўкаліся за руку. Драгун папрасіў у паэта прабачэння за турботы і запрасіў сесці.

— А навошта я вам так тэрмінова спатрэбіўся?— спытаў Колас.

— Ды вось тут такая справа...— заікаючыся, пачаў тлумачыць рэдактар і раптам змоўк. Відаць, ён надта хваляваўся і не ведаў, што і як растлумачыць. Пераве́ўшы дыханне, ён зноў загаварыў:— Бачыце, тут такая справа... У вашым вершы закралася памылачка...—ён узяў са стала аркуш паперы з вершам.

— Памылка ў вершы?— Колас выхапіў з рук Драгуна верш і пачаў чытаць і перачытваць падкрэсленыя радкі.

— Тут адзін радок не зусім удала гучыць,— не вытрымаў я і прыйшоў на дапамогу рэдактару.— Вы пішаце, што савецкі салдат, пераможца над гітлераўцамі, ідзе па Еўропе ў лапцях на нагах, з торбай на плячах і з кіем у руках. Нібыта ён нейкі жабрак... атрымліваецца...

— Сам бачу, што кепска,— абарваў мяне Колас.—Не дадумаў. Бо спяшаўся. І думаеце, калі народны паэт, дык ён не можа памыляцца. Асабліва калі назаляюць, тузаюць яго з усіх бакоў...

Ён устаў з-за стала, сунуў верш у кішэню.

— Ну, я пайду. Папрацую яшчэ.— І накіраваўся да дзвярэй. Я стаў на яго шляху і пачаў прасіць-маліць:

— Канстанцін Міхайлавіч! Дзядзька Колас! Не ідзіце. Пасядзіце тут. Папраўце радок...

— Мы пойдзем з кабінета, —падтрымаў мяне рэдактар (так было раней дамоўлена).— Ніхто вам не будзе перашкаджаць.

Колас пераступіў з нагі на нагу і не то жартам, не то ўсур'ёз сказаў:

— Бачу, ад вас не адчэпішся. Магу і тут.— І сеў за стол.

Мы моўчкі, ціха ступаючы, выйшлі з кабінета. Рэдактар загадаў мне стаяць пад дзвярыма і чакаць, пакуль Колас выйдзе, і забраць у яго верш.

Чакаць давялося з паўгадзіны, а можа, і больш. Калі пачуў, што Колас набліжаецца да дзвярэй, я не вытрымаў, адчыніў іх, увайшоў у кабінет. Кінуўшы на мяне злы позірк, Я. Колас хрыплаватым голасам сказаў:

— Ну разуў лапці салдату. Абуў боты... А табе, малады чалавек, раю надалей быць больш тактоўным. І не ганяць хворага чалавека па рэдакцыях...

Пасля гэтага мне стала неяк сорамна паказвацца на вочы народнаму паэту. Але справа ёсць справа. Праз нейкі час рэдакцыя вымушана была зноў звярнуцца да яго з просьбай напісаць верш, прысвечаны дню вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў. На гэты раз верш заказаў яму сам рэдактар. У вызначаны дзень я быў вымушаны пайсці да Коласа. Ішоў і хваляваўся: як сустрэне, ці не пачне папракаць, як некалі.

Падыходзячы да хаты, заўважыў: дзверы ў сенцы былі прыадчынены. Увайшоў у сенцы і праз адчыненыя ў хату дзверы ўбачыў... не Коласа, а бухгалтара «Савецкай Беларусі» Шуру Кетлер, якую добра ведаў. Як зараз памятаю, яна сядзела за сталом і жавала шакаладку. На маё прывітанне яна чамусьці з усмешкай адказала: «Заходзьце». У пакоі яна была адна і, як кажуць, чорт дзёрнуў мяне за язык спытаць у яе, што яна тут робіць. У гэты ж момант з суседняга пакоя ўвайшоў Колас і кінуў на мяне незадаволены позірк.

— Вы, мусіць, за вершам прыйшлі?

— За вершам,— прабубніў я.— Рэдактар вас прасіў...

— Ніякага верша для вас няма,—адрэзаў Колас.—Не напісаў... Не было часу... Так і скажыце свайму рэдактару...

Прыйшоўшы на работу, я далажыў рэдактару аб сваім няўдалым візіце да народнага паэта. Давялося тэрмінова заказаць верш другому аўтару. На наступны дзень, калі я зайшоў раніцай да сакратара рэдакцыі В. Палескага, ён спытаў мяне з усмешкай:

— Бачыў сённяшні нумар газеты «Савецкая Беларусь»?

— Не, не бачыў.

Ён падаў мне газету. На першай яе старонцы быў надрукаваны верш Якуба Коласа, прысвечаны дню вызвалення ад акупантаў нашай рэспублікі. Калі я прызнаўся, што бачыў у Коласа на кватэры бухгалтара «Савецкай Беларусі» Кетлер, ён з яшчэ больш шырокай усмешкай кіўнуў галавой:

— Усё ясна. Ясна, што яна спрытна падставіла табе ножку... Спрытна.

Можа, яно і так. Але ж кожны аўтар мае права друкаваць свае творы ў тым выданні, якое найбольш яму падабаецца. Калі, вядома, не парушаецца дагавор. А дагавор, як вядома, даражэй за грошы...

**Сяргей СВІРЫДАЎ.**

НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА

## Пра Яна Абрагамовіча, афтальмолага Адамюка і школы «для бабьего дела»

**Нядаўна «Звязда» паведамляла, што ў Беларускай Энцыклапедыі распачалася работа над цікавым выданнем — «Беларусь в «Энциклопедическом словаре» Ф. Брокгауза и И. Ефрона». Гэта збор факсімільна перадрукаваных артыкулаў пра Беларусь, змешчаных у 84 тамах энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона, якія ў сукупнасці выяўляюць погляд на Беларусь стогадовай даўнасці. Новае арыгінальнае выданне рыхтуецца да друку пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук М. Ткачова. Па дамоўленасці з Беларускай Энцыклапедыяй, мы распачынаем друкаванне матэрыялаў з гэтай кнігі. Дасягнута таксама дамоўленасць аб прэзентацыі і іншых цікавых выданняў.**

Сёння размова пойдзе пра артыкулы, што надрукаваны ў першым томе. А такіх артыкулаў, якія прама ці ўскосна тычацца Беларусі, каля 5 дзесяткаў.

Можа хто з медыкаў і ведае ці чуў пра выдатнага рускага афтальмолага Э. Адамюка, які нарадзіўся ў Бельску ў 1839 г. і паходзіў з сям'і мяшчан-землярobaў, беларусаў. У 1857 г. у 18-гадовым узросце, як першы вучань бельскай гімназіі, ён атрымаў стыпендыю віленскай вучэбнай акругі і паступіў у Казанскі ўніверсітэт, у якім скончыў медыцынскі факультэт. Яму было 26 гадоў, калі абараніў доктарскую дысертацыю і быў прызначаны асістэнтам пры вочным аддзяленні Казанскага ўніверсітэта. У пачатку 1870-х гадоў чытаў лекцыі па хваробах вока ў якасці дацэнта, а з 1874 г. — як ардынарны прафесар. У артыкуле падкрэсліваецца, што пералік прац Э. Адамюка вялікі, а якасць іх гарантуе яму адно з самых выдатных месцаў у расійскай медыцыне.

Яшчэ адзін вядомы медык, А. Адамовіч, быў прафесарам Віленскага ўніверсітэта, а потым Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, узначальваў кафедры параўнальнай анатоміі і ветэрынарных навук. Вучань знакамітага Іосіфа Франка, А. Ф. Адамовіч — аўтар шматлікіх прац, у якіх змешчаны яго выдатныя клінічныя назіранні. Ён даў апісанне Віленскага анатамічнага музея, напісаў гісторыю вывучэння анатоміі ў Польшчы і Літве. Велізарная роля нашага земляка ў адкрыцці ветэрынарнага інстытута пры Віленскім універсітэце.

Дарэчы, калі ўжо зайшла размова пра медыцыну, то нельга абысці ўвагай змястоўны артыкул «Акушерские школы». Чытач даведаецца, што заснаваны гэтыя жаночыя навучальныя ўстановы ў Расіі ў 1754 г., калі па праекце выдатнага арганізатара медыцынскіх устаноў у Расіі Канфідзі сенат загадаў заснаваць школы для «бабьего дела». Сто гадоў назад такіх школ у Расіі было больш за 35. На Беларусі яны працавалі пры акушэрскіх клініках універсітэцкіх гарадоў і пры радзільных аддзяленнях гарадскіх шпіталяў у Вільні, Гародні і Магілёве (так званыя цэнтральныя, мясцовыя і земскія школы). У школах вывучалі закон Божы, рускую мову, арыфметыку, курс тэарэтычнага і практычнага родадапаможнага майстэрства.

Многа цікавай інфармацыі чытач знойдзе ў артыкуле «Академия духовная римско-католическая». На двух старонках сцісла і змястоўна расказваецца пра гэту некалі знакамітую навучальную ўстанову — цэнтр духоўнай культуры беларусаў.

Сапраўдная гісторыя нашай Бацькаўшчыны сабрана ў артыкуле «Акты». Менавіта пад такой назвай археаграфічнымі камісіямі і некаторымі збіральнікамі выдадзена шмат каштоўнейшых гістарычных дакументаў, сярод якіх і «Акты Виленской археографической комиссии». Выйшла 15 тамоў, у якіх акты земскіх судоў з XVI па XVII ст., акты віленскага гарадскога і земскага судоў, магістрата, акты галоўнага Літоўскага трыбунала (1398—1797 гг.), інвентарныя перапісы маёнткаў XVI ст. і гэтак далей.

Нават у такім спецыфічным артыкуле, як «Акцыз», што ў перакладзе з лацінскага азначае «накладваць, устанаўліваць (падатак)», ёсць упамінанне пра Беларусь. Там, дзе ідзе гаворка пра акцызны падатак на віно, напісана, што ў Беларусі з 1772 года памешчыкі за права займацца вінакурэннем плацілі па 50 капеек з душы. У гарадах продаж віна аддаваўся на водкуп магістратам, таксама з платаю «з душы».

Чытач знойдзе артыкул пра Абрагамовічаў, якія славіліся сваім багаццем і адукаванасцю. Прадстаўнік гэтага рода — Ян, быў ваяводам у Смаленску. Ёсць меркаванне, што менавіта ён з'яўляецца аўтарам выдатнага твора: «Мнение литовцев о торговле», у якім абараняе свабоду гандлю. У гэтым томе надрукаваны артыкулы пра Аляксандра Неўскага, Аляксандра Ягелона, Аляксея Міхайлавіча, другога з цароў дома Раманавых, пра імператараў расійскіх Аляксандра I, Аляксандра II, Аляксандра III.

Трэба ўлічыць: сто гадоў назад былі іншыя меркі ў ацэнцы падзей, людзей і іх дзеянняў. Некаторыя аўтары не пазбеглі так званай вялікадзяржаўнасці пры падрыхтоўцы пэўных артыкулаў. Аднак гісторыя ёсць гісторыя.

**Вячаслаў ЮШКЕВІЧ, навуковы рэдактар Беларускай Энцыклапедыі.**

РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

## І даплата, і адпачынак

**Працую ў забруджанай зоне. Ці маю права на кампенсацыю? І наогул, якія мне належаць ільготы?**

**Л. ШАЛЫГІНА.**
**в. Гарбовічы, Чавускі раён.**

— Так, згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 3 чэрвеня 1992 г.,—адказаў **намеснік старшыні Чавускага райвыканкома П. СЕРАКОЎ**,—вам належыць фіксаваная даплата да зарплаты ў размеры 160—210 рублёў у месяц за работу ў вёсцы Хацетава, якая знаходзіцца ў зоне з перыядычным радыяцыйным кантролем.

А вось штомесячная грашовая дапамога на кожнага члена сям'і згодна з арт. 30 вам не выплачваецца: в. Гарбовічы, дзе вы пражываеце, не ўваходзіць у такую зону).

Акрамя таго, у адпаведнасці з арт. 25 грамадзянам, якія жывуць (працуюць) у зоне з перыядычным радыяцыйным кантролем, прадастаўляецца штогадовы аплачваемы водпуск (працуючым) 30 каляндарных дзён без уліку дадатковага адпачынку, які яны маюць за работу, звязаную са шкоднымі ўмовамі працы.

РКСБ-104

## Згодна з беларускімі законамі

**Я ліквідатар вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ніяк не магу дабіцца канкрэтнага тлумачэння на пытанне, у колькі гадоў магу пайсці на пенсію?**

**М. ШЭВЕЛЕЎ.**
**Буда-Кашалёўскі раён.**

На гэта пытанне **намеснік старшыні Гомельскага абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Н. МЕЗЕНКА** даслаў у рэдакцыю такое тлумачэнне:

— З 1 верасня па 31 снежня 1991 года пенсіённае забеспячэнне ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС праводзілася згодна з Законам СССР «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых у выніку катастрофы на ЧАЭС», г. зн. яны маглі пайсці на пенсію на 10 гадоў раней устаноўленага па ўзросту тэрміну.

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дзейнічаюць толькі яе законы. А яны прадугледжваюць пенсіённае забеспячэнне гэтай катэгорыі грамадзян на 5 гадоў раней устаноўленага ўзросту.

### Сёння ў выпуску:

**Пра льготы ліквідатарам і хто колькі зарабляе, пра бацькоўскія завяшчанні і рэстаранную настальгію пінчукоў, пра «залатыя» чыгуначныя паязды і хуткасці на дарогах Еўропы, пра падаткі і аклады ваеннаслужачых, пра ордэны і медалі і г. д., і г. д.**

ПЫТАЛЬНІК

**Нягледзячы на высокія цэны, у грамадскіх сталовых усё роўна пуста, хоць не заходзь туды. Ведаю, што ў нашым горадзе да вайны існавала многа кафэ, рэстаранаў, закусачных. Сярод іх вызначаўся рэстаран Грыгаровіча. Ёсць звесткі, што ў свой час яго наведвалі такія славутасці, як Л. Уцёсаў і іншыя. Ці нельга расказаць пра яго? Можа, вопыт нашых папярэднікаў дапаможа сённяшнім дзелавым людзям заняцца добрай справай.**

**У. ПАЎЛАЎ (г. Пінск).**

ГАРАДСКІ ПЕЙЗАЖ

## Пра дзікую качку, Леаніда Уцёсава і горад Пінск

У Пінскім філіяле дзяржархіва Брэсцкай вобласці захоўваецца цікавы дакумент. На ім стаяць аўтографы сапраўды вядомых людзей. Нягледзячы на тое, што дакументу больш за паўстагоддзя, захоўваўся ён ідэальна, і подпісы можна прачытаць, што называецца, простым вокам.

Такім чынам, чытаем, захоўваючы стыль аўтараў: «За знаходжанне ў г. Пінску штодзённа наведвалі кафэ-рэстаран гр. Грыгаровіча. Выключна ўважлівыя адносіны і цудоўная кухня пакінулі самыя прыемныя ўспаміны. Дзякуй Л. УЦЁСАЎ, Ф. РАНЕЎСКАЯ».

Для тлумачэння маленькі экскурс у гісторыю. Даваенны Пінск — гэта горад саматужнікаў, рамеснікаў, гандляроў. Тысячы пінчан мелі сваю справу, валодалі майстэрнямі, гасцініцамі, магазінамі і лаўкамі, цэлымі прадпрыемствамі. Натуральна, нямала гараджан рабілі свой бізнес ва ўласных сталовых, кафэ, закусачных. Паміж імі ішла здаровая канкурэнцыя. Але, паводле сведчання старажылаў, найбольшай папулярнасцю карыстаўся рэстаран Т. Грыгаровіча, які займаў увесь двухпавярховы будынак на былой вуліцы Касцюшкі (зараз вуліца Леніна). Славілася гэтая ўстанова сваім камфортам і ўтульнасцю, выдатным аркестрам. Больш за ўсё сюды, вядома, прыцягвала наведвальнікаў смачная яда, фірменныя стравы, Напрыклад, толькі ў Грыгаровіча можна было пакаштаваць дзікую качку, запечаную з яблыкамі.

І калі рэстаран на другім паверсе наведвала публіка багатая, то кандытарская, якая размяшчалася ўнізе, прапаноўвала шырокі асартымент піражных па даступных цэнах. Нездарма тут так часта можна было бачыць маладых людзей з суседняй гімназіі.

Пасля верасня 1939 года большасць прадпрымальнікаў працягвалі працаваць як і ў ранейшы час, хоць прыватны бізнес новымі ўладамі не вельмі заахвочваўся. Вось і гаспадар лепшага ў горадзе рэстарана адразу ж сутыкнуўся з сур'ёзнымі цяжкасцямі. Не хапала мукі, цукру, паліва. Таму Грыгаровіч і звярнуўся да старшыні Часовага кіраўніцтва ў Пінску з заявай, у якой просіць дапамогі ў вырашэнні гэтых пытанняў. Арыгінал заявы якраз і знаходзіцца ў архіўнай справе.

Каб эмацыянальна ўздзейнічаць на гандлёвы аддзел Часовага кіраўніцтва, уладальнік рэстарана прыклаў да заявы водгукі наведвальнікаў. Вось сярод іх мы і знаходзім аўтограф Леаніда Уцёсава. І не толькі яго.

Справа ў тым, што пасля вераснёўскіх падзей у Заходнюю Беларусь з культурна-асветніцкай місіяй накіроўваліся вялікія групы пісьменнікаў, артыстаў, журналістаў. А паколькі рэстаран Грыгаровіча быў самым вядомым і прэстыжным, то ўсе госці горада стараліся харчавацца менавіта тут. Многія з іх палічылі сваім абавязкам пакінуць запісы ў кнізе ганаровых наведвальнікаў.

Вось размашысты почырк Петруся Броўкі: «У гэтым рэстаране мне спадабалася. Ежа заўсёды смачная. Рэстаран Грыгаровіча вельмі добры». Пятро Глебка быў лаканічным: «Добра».

3-га лістапада 1939 года, відаць, пасля смачнага абеду Міхась Лынькоў запісвае: «Трэба пажадаць кожнаму працаўніку грамхарчу так клапаціцца аб наведвальніку, як адміністрацыя рэстарана Грыгаровіча».

Сярод тых, хто даў высокую ацэнку рэстарану, папулярныя беларускія пісьменнікі Янка Маўр, Алесь Кучар, канцэртмайстар з Масквы Барыс Мандрус, артыст маскоўскай эстрады Міхаіл Гофман, група сталічных журналістаў.

Хутчэй за ўсё, гэтымі аўтографамі Грыгаровічу не ўдалося пераканаць новыя ўлады і заява засталася без адказу.

Далейшы лёс таленавітага прадпрымальніка невядомы. Ёсць версія, што ў 1940 годзе ён выехаў у Польшчу, пасля таго як будынак рэстарана быў нацыяналізаваны.

Міжволі хочацца спытаць: «А ці не час ужо ў Пінску мець такі ж «прыватны» рэстаран ці на благі канец кафэ — з такой жа добрай славай? Дзе вы, камерсанты, прадпрымальныя людзі?

**Сямён ШАПІРА (г. Пінск).**

ЮРЫДЫЧНАЯ ПАПКА

## Бацька, ты не маеш рацыі

**У мяне ўзніклі прэтэнзіі да натарыяльнай канторы, якая не прымае пад увагу ліст майго брата. У ім ён піша, што ўсю маёмасць завяшчае мне. Але брат памёр, так і не паспеўшы скласці афіцыяльнае завяшчанне. Адкажыце, ці маюць права на нейкія прэтэнзіі ў натарыяльнай канторы?**

**А. ЦІШУК, г. Мінск.**

**Бацька сказаў, што склаў завяшчанне з той умовай, каб я не выйшла замуж за аднаго чалавека. Калі ж выйду, то не атрымаю спадчыны. Наколькі гэтае патрабаванне правамернае?**

**Л. Г. (г. Гомель).**

Мы павінны засмуціць аўтара першага ліста, які прыйшоў у рэдакцыю. Ніякія лісты, вусныя заявы і распараджэнні, зробленыя пры сведках, не могуць лічыцца афіцыяльным завяшчаннем.

Завяшчанне абавязкова павінна падпісаць асоба, ад імя якой афармляецца завяшчанне, і, вядома, засведчыць натарыус. Закон дапускае толькі натарыяльна афармленыя завяшчанні, засведчаныя натарыусам або ўпаўнаважанымі на тое адказнымі асобамі мясцовых органаў улады, кіраўнікамі лячэбных і кансультацыйных устаноў, а ў пэўных выпадках — камандзірамі воінскіх часцей, капітанамі суднаў, начальнікамі экспедыцый і нават месц зняволення.

Толькі ў тым выпадку, калі грамадзянін мае нейкі фізічны недахоп або непісьменны, за яго (але ў яго прысутнасці) завяшчанне можа напісаць іншая асоба, і таксама ў прысутнасці натарыуса.

Усе спрэчкі аб няправільным засведчанні завяшчанняў, аспрэчванне сутнасці і г. д. разглядаюцца ў судовым парадку.

Што датычыць другога ліста, аўтар якога скардзіцца на абмежаванне з боку бацькі, можна сказаць, што яго ўмовы незаконныя і ставіць іх неправамерна. Нашчадак можа іх аспрэчваць у судовым парадку, паколькі яны абмяжоўваюць правы і свабоды грамадзян. Але ёсць і такія ўмовы, якія завяшчальнік мае права адлюстраваць у завяшчанні. Напрыклад, можна паставіць умову, што спадчынная маёмасць можа быць атрымана пры дасягненні пэўнага ўзросту, або што ў спадчыннай жылой хаце будзе пастаянна пражываць тая ці іншая асоба. Але і ў гэтых выпадках, калі нашчадак аспрэчвае якія-небудзь умовы атрымання спадчыны, спрэчка вырашаецца ў судзе.

## «У каго аклад, а ў каго і «камерцыйная тайна»

**Я працую даяркай і атрымліваю, на першы погляд, неблагую зарплату: ад 3 да 4 тысяч рублёў. Праўда, гэтых грошай ледзь хапае, каб звесці канцы з канцамі. Няўжо і ва ўсіх простых людзей такое становішча? І наогул, хацелася б даведацца, колькі хто атрымлівае ў месяц.**

**Л. КАРЧАГІНА (Мядзельскі раён).**

**Прыводзім даныя аб месячных заробках асобных катэгорый нашага грамадства:**

**— сярэдні студэнт ВНУ—910 рублёў;**
**— вартаўнік садовага таварыства—1.500 рублёў;**
**— медыцынская сястра гарадской палiклінікі—1.700 рублёў;**
**— начальнік варты пажарнай часці ў гарадскім пасёлку — 1.870 рублёў;**
**— настаўніца матэматыкі сярэдняй школы—2.100 рублёў;**
**— сельскі бібліятэкар—2.400 рублёў;**
**— цырульнік—2.500 рублёў;**
**— малодшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук РБ—2.600 рублёў;**
**— артыст тэатра—2.600 рублёў;**
**— механізатар калгаса, саўгаса — 3.500—4.000 рублёў;**
**— старшы рэдактар Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі—3.050 рублёў;**
**— намеснік загадчыка аддзела прадуктовага магазіна—3.700 рублёў;**
**— галоўны спецыяліст камерцыйнага банка—5.000—7.000 рублёў;**
**— старшы рэферэнт Вярхоўнага Савета РБ—5.800 рублёў;**
**— вадзіцель трамвая—6.900 рублёў;**
**— вадзіцель тралейбуса і электрапоезда метро (г. Мінск)—7.200 рублёў;**
**— вадзіцель аўтобуса—8.000 рублёў;**
**— міліцыянер першага года службы—5.000—6.000 рублёў;**
**— начальнік аддзела УУС (маёр)—9.000—10.000 рублёў;**
**— сакратар камісіі Вярхоўнага Савета РБ—9.400 рублёў.**

**Гэта далёка не поўны аб'ём зарплаты, таму што прыведзены «чыстыя» аклады (за выключэннем студэнтаў). Спекулянты і валютчыкі, напэўна, атрымліваюць у месяц у некалькі разоў больш, чым сакратар камісіі ВС РБ. Але свае даходы яны не любяць афішаваць. І зарплата ў іх называецца «камерцыйнай тайнай». Гучна, прыгожа і важка.**

ГРОШЫ НА БОЧКУ

## У падатка рукі хваткія

**Не разумею, чаму з мяне бяруць вялікі падатак. Бухгалтар кажа, што на 100 маіх «кроўных» трэба пералічваць дзяржаве яшчэ столькі ж. Колькі ж усяго падаткаў на мне вісіць?**

**А. МЯКІШ (г. Гродна).**

**Можна сказаць адным словам — многа. Справа ў тым, што ўсе дзяржразліковыя арганізацыі РБ на 100 рублёў зарплаты павінны пералічыць у бюджэт 103 рублі 22 капейкі ўсялякіх падаткаў.**

**А менавіта 40 рублёў 80 капеек — у пенсіённы фонд і сацстрах, 39 рублёў 42 капейкі — падатак на дадатковы кошт; 18 рублёў — надзвычайны падатак; 4 рублі — на ўтрыманне дзіцячых садоў і ясляў і 1 рубель—на беспрацоўе. Яшчэ 30 працэнтаў «забіраецца» ў бюджэт ад прыбытку і 1,5 працэнта — падатак на нерухомасць ад астаткавага кошту асноўных сродкаў.**

## Зоркавыя «аклады»

**Мы ў будучым годзе заканчваем Мінскае ваеннае інжынернае вучылішча і станем афіцэрамі. У сувязі з гэтым, паважаная рэдакцыя, не зусім карэктнае, але злабадзённае пытанне: якія аклады выплачваюцца зараз афіцэрам па вайсковых званнях?**

**Група курсантаў, г. Мінск.**

Улічваючы той факт, што падобныя пытанні прыходзяць і ад ваеннаслужачых звыштэрміновай службы, прыводзім даныя з Дадатка № 2 да пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб рэгуляванні аплаты працы ваеннаслужачых Узброеных Сіл і пагранічных войск» ад 12 чэрвеня 1992 года № 361. У адпаведнасці з ёю малодшы сяржант звыштэрміновай службы павінен атрымліваць аклад за вайсковае званне ў памеры 150 рублёў, сяржант, старшы сяржант і старшына звыштэрміновай службы — адпаведна 200, 250 і 300 рублёў, прапаршчык — 400, а старшы прапаршчык — 500 рублёў.

Афіцэрам малодшага і сярэдняга саставу ўстаноўлены «за зоркі» наступныя аклады: малодшаму лейтэнанту — 700 рублёў, лейтэнанту — 800, старшаму лейтэнанту — 900, капітану — 1.000, маёру — 1.200, падпалкоўніку — 1.400 і палкоўніку — 1.500 рублёў. Больш высокія лічбы акладаў па воінскіх званнях у вышэйшага афіцэрства. Генерал-маёру «ідзе» 1.900 рублёў, генерал-лейтэнанту — 2.000 рублёў, генерал-палкоўніку — 2.400, а генералу арміі — ажно 2.500 рублёў.

ДАЛЁКАЕ ЗАМЕЖЖА

## Дзе мы не глядзім у хвост Еўропе

**Многія мае суайчыннікі зараз маюць магчымасць выязджаць у краіны Еўропы на ўласных аўтамабілях. Але карысна зараней ведаць, якія найбольшыя хуткасці руху ўстаноўлены ў еўрапейскіх дзяржавах.**

**У. МІГАЛІНЕЦ (г. Мінск).**

Дарэчы, гэтае пытанне цікавіць зараз многіх, улічваючы, што Беларусь з'яўляецца своеасаблівым фарпостам СНД у Еўропе. Нядаўна «Звязда» атрымала апошнія даныя аб межах максімальных хуткасцей у краінах Еўропы. Яны выглядаюць наступным чынам.

| | У населеных пунктах | Па-за населенымі пунктамі | На аўтамагістралях |
|---|---|---|---|
| Аўстрыя | 50 | 100 | 130 |
| Бельгія | 50 | 90 | 120 |
| Вялікабрытанія | 48 | 96 | 112 |
| Венгрыя | 60 | 80 | 100 |
| Грэцыя | 50 | 80 | 100 |
| Германія | 50 | 100 | 100 |
| Данія | 50 | 80 | 100 |
| Ірландыя | 48 | 88 | 106 |
| Італія | 50 | 80—110 | 90—140 |
| Іспанія | 60 | 90 | 120 |
| Люксембург | 60 | 90 | 120 |
| Нідэрланды | 50 | 80 | 120 |
| Нарвегія | 50 | 80 | 100 |
| Польшча | 60 | 90 | 110 |
| Партугалія | 60 | 90 | 120 |
| Румынія | 60 | 70—80 | 70—80 |
| Турцыя | 50 | 90 | 90 |
| Фінляндыя | 50 | 80 | 80—120 |
| Францыя | 60 | 90 | 130 |
| Швейцарыя | 50 | 80 | 120 |
| Швецыя | 50 | 70 | 110 |
| Чэха-Славакія | 60 | 90 | 110 |
| Для параўнання: | | | |
| Беларусь | 60 | 80 | 110 |

ДВАЙНОЕ ДНО

## «Чорная скрыня», або... аранжавы шар

**Даволі часта прыходзіцца чуць, што пры расследаванні авіякатастроф вельмі важную ролю адыгрываюць «чорныя скрыні». Што ўвогуле яны сабой уяўляюць?**

**А. СУХАН, г. Бяроза.**

Правільней гэтыя «чорныя скрыні» было б назваць аранжавымі шарамі, бо менавіта ў шарападобны кантэйнер яркааранжавага колеру (каб лёгка было заўважыць) па 256 каналах паступае інфармацыя ад усіх сістэм самалёта. Як працуе турбіна, ці фіксуецца выпушчаная «нага» шасі, ці нармальна паводзяць сябе органы кіравання — усё гэта перадаецца на самапісы, схаваныя ў «чэраве» «скрыні». Яго керамічная абалонка разлічана на 100-кратныя перагрузкі і вытрымлівае тэмпературу да 2000°С. Акрамя таго, самі носьбіты інфармацыі дастаткова ўстойлівыя да рознага роду «прыгод». Напрыклад, размовы паміж членамі экіпажу і з Зямлёй запісваюцца на магнітны провад з вальфраму. Такім чынам, знаходзячы «скрыню» на месцы катастрофы, спецыялісты атрымліваюць магчымасць высветліць прычыны лётнага здарэння, папярэдзіць такое, калі гэта магчыма, на іншых лятальных апаратах данага тыпу. Паказанні «чорнай скрыні» дапамагаюць і пры вызначэнні віны экіпажу, дапусціўшага аварыю або няграматную эксплуатацыю тэхнікі.

НЕВЕРАГОДНА, АЛЕ ФАКТ

## Жанчына-«цыклоп»

**Ведаю, што ёсць людзі з трыма рукамі або шасцю пальцамі на кожнай руцэ, а вось нядаўна знаёмыя казалі, што недзе жыве жанчына з трыма вачамі. Здаецца, што гэта ўжо па-за межамі фантастыкі.**

**Вера МАНУКОВА.**
**г. Браслаў (па тэлефоне).**

Сапраўды, калі меркаваць па матэрыялах некаторых сродкаў масавай інфармацыі, у горадзе Калумбус (ЗША) жыве дваццаціпяцігадовая Эмі Хансан, у якой ёсць трэцяе вока на патыліцы. Працуе яна настаўніцай, прычым дзеці ў школе не могуць пасваволіць, нават калі Эмі стаіць павярнуўшыся да іх спінай. Жанчына-феномен бачыць сваім трэцім вокам лепей, чым двума пярэднімі, яна блізарукая і міргае трыма вачамі адначасова, можа глядзець тэлевізар, нават схіліўшыся над кухоннай плітой, чытаць і вязаць адначасова.

— Каб не выклікаць цікаўнасці, я нашу доўгія валасы,— расказвае Эмі Хансан, — яны не перашкаджаюць мне бачыць. Калі я была малой, дзеці прыдумалі мне злую мянушку «Цыклоп», аднак амаль усе мне зайздросцілі. Дарэчы, ў Эмі ёсць жаніх, які ганарыцца яе незвычайнасцю, марыць аб хуткім шлюбе і, адпаведна, аб дзецях. Пры гэтым будучая маці жадае, каб у яе дзяцей было двое вачэй, як і ва ўсіх.

## Камандзіроўка за мяжу

**Жыхары Беларусі ўсё часцей выязджаюць у замежныя службовыя камандзіроўкі. Цікава, які памер камандзіровачных у замежных краінах.**

**Я. ПАЛІШЧУК (г. Столін).**

Трэба сказаць, што размер камандзіровачных расходаў у большасці дзяржаў устанаўліваецца Міністэрствам фінансаў сумесна з міністэрствамі знешнеэканамічных сувязяў і замежных спраў. Так, у Францыі яны складаюць 148 французскіх франкаў сутачныя і 250—гасцініца; у Балгарыі—адпаведна 18 і 60 амерыканскіх долараў; у Іспаніі—24 долары і 4500 песет; у Германіі 45 і 130 марак; у Чэха-Славакіі 15 і 35 долараў; у Бельгіі—1005 і 2100 бельгійскіх франкаў; у Галандыі—50 і 100 гульдэнаў; у Італіі сутачныя—26 тысяч італьянскіх лір, гасцініца—100 тысяч лір.

ПЫТАЛЬНІК

### Пішыце ў «Пытальнік» па адрасу:

**220041, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «ЗВЯЗДА».**

**ТЭЛЕФАНУЙЦЕ У «ПЫТАЛЬНІК»:**
**32-60-13,**
**32-44-02,**
**32-43-03.**

## Поезд— справа танная. Але ў параўнанні з самалётам

**Чула, што адзін дызель-поезд каштуе цяпер 40 мільёнаў рублёў. Напэўна, таму іх парк на Беларусі амаль не абнаўляецца. Цікава, а на колькі «цягнуць» іншыя сродкі перавозкі пасажыраў.**

**А. ЛАПЮК,**
**Магілёўская вобласць.**

Наша чытачка трохі памыляецца. Адзін дызель-поезд для Беларусі каштуе 45 мільёнаў рублёў, электрапоезд — 35, а адзін пасажырскі вагон — ажно мільён нямецкіх марак. У параўнанні з гэтым аўтобусы здаюцца значна таннейшымі, напрыклад, «ЛАЗ» мільён, а «ЛіАЗ» — два мільёны рублёў. А вось «Ікарусы» прадаюцца толькі за валюту.

Самалёт-авіялайнер «ТУ-154М» можа забраць з бюджэту 164 мільёны рублёў, ды яшчэ кожная тона авіяцыйнай газы каштуе 8 тысяч «драўляных». Канешне, рэспубліканскаму бюджэту наўрад ці пад сілу вытрымаць такія расходы, аднак ёсць надзея на дапамогу Еўрапейскага супольніцтва, у камісіях якога зараз праходзіць экспертызу праграма развіцця транспарту ў нашай рэспубліцы.

БЫЛОЕ І ДУМЫ

## Золата ля сэрца...

**«Куплю ордэны і медалі»—такія абуральныя аб'явы, на жаль, можна ўбачыць у вельмі многіх газетах. У вас, у «Звяздзе», падобных аб'яў ніколі не было і, я спадзяюся, не будзе!.. Але мяне цікавіць другі бок справы—а з чаго, з якога металу вырабляюцца гэтыя ўзнагароды?»**

**(З пісьма мінчаніна В. ПАПЯРЭЦКАГА).**

Практычна ўсе ордэны і медалі былога СССР выраблялiся з золата або серабра, некаторыя—з плаціны, выкарыстоўвалася багатая аздоба.

Першым па ранжыру ў спісе былых савецкіх ордэнаў стаіць ордэн Леніна. Вось некалькі радкоў з афіцыйнага апісання гэтай узнагароды: «Ордэн Леніна ўяўляе з сябе знак, які адлюстроўвае партрэт-медальён У. І. Леніна з плаціны, змешчаны ў круг, акаймаваны залатым вянком з калоссяў пшаніцы. Цёмна-шэры эмалевы фон вакол партрэта-медальёна гладкі і абмежаваны двума канцэнтрычнымі залатымі абадкамі... На сцягу з рубінава-чырвонай эмалі — надпіс залатымі літарамі «Ленин». Ордэн Леніна вырабляецца з золата...».

У апісанні не ўказваюцца ні проба золата, з якога вырабляўся ордэн, ні яго вага. Забягаючы наперад, трэба сказаць, што падобных даных ў апісаннях пераважнай большасці ўзнагарод, за выключэннем Залатых Зорак Героя, вага якіх абвешчана, ды ордэна «Перамога». «Залатая Зорка» Героя Савецкага Саюза вырабляецца сапраўды з золата (зноў жа без указання пробы) і важыць 21,5 грама, а «Серп і Молат» Героя Сацыялістычнай Працы важыць 15,25 грама. Ордэн «Перамога» выраблаўся з плаціны і аздабляўся брыльянтамі агульнай вагой 16 карат.

У асноўным з золата выраблялiся ордэны «Маці-гераіня», Кутузава, Ушакова II ступені, Славы I ступені і некаторыя іншыя. Больш ордэнаў выраблялася з серабра —ордэны Кастрычніцкай Рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, «Знак Пашаны», Працоўнай славы, Чырвонага Сцяга, Аляксандра Неўскага, Нахімава, Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі, Славы II і III ступені, «Мацярынская слава» і некаторыя іншыя ўзнагароды. Плаціна выкарыстоўвалася на ордэны Суворава і Ушакова I ступені.

На медалі «ішлі» менш «высакародныя» металы — напрыклад, латунь («Партызану Айчыннай вайны» II ступені, «За перамогу над Германіяй...» і г. д.), бронза (медаль Нахімава, «Медаль мацярынства» II ступені, «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне...» і г. д.), тампак (напрыклад, «Ветэран працы»), нейзільбер (напрыклад, «За адвагу на пажары») і нават проста, як указана ў апісаннях некаторых медалёў «каляровыя металы».

Але і сярод медалёў ёсць «прывілеяваныя», якія выраблялiся з серабра. Напрыклад, медалі «За працоўную доблесць», «За працоўную адзнаку», «За адвагу», Ушакова, «За баявыя заслугі», «Партызану Айчыннай вайны» I ступені, «Медаль мацярынства» I ступені і некаторыя іншыя.

Але нездарма кажуць, што не ўзнагароды вызначаюць чалавека, не іх колькасць. Тым больш, што ў апошнія гады сістэма ўзнагароджання была дыскрэдытаваная існуючымі парадкамі. Чалавек заўсёды слаўны сваёй працай, учынкамі, сапраўдным гераізмам.

Больш падрабязна з апісаннямі ордэнаў, медалёў, іншых узнагарод можна пазнаёміцца ў «Зборніку заканадаўчых актаў аб дзяржаўных узнагародах СССР», які быў у 1987 годзе выпушчаны выдавецтвам «Известия».

СЛУЖБА 01

## Агонь толькі мясцовага значэння

**Чула, што на Беларусі пачала функцыяніраваць вышэйшая навучальная ўстанова па падрыхтоўцы пажарных. Ці так гэта? Пытаюся таму, што мой сын марыць стаць пажарным. З павагай**

**А. АКУЛОЎСКАЯ (Магілёўская вобл.).**

Сапраўды, зусім нядаўна ў Мінску адкрылася вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча, навабранцы якога ў пачатку кастрычніка прымалі прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь, свайму народу. Вучыцца ў новым вучылішчы трэба чатыры з палавінай гады, пасля чаго курсанты атрымліваюць званне лейтэнанта. У гэтым годзе, праўда, было набрана толькі дзве групы, потым набор павялічыцца. На думку начальніка ўстановы палкоўніка Вараб'ёва, выпускнікі пажарна-тэхнічнага вучылішча без работы не застануцца, бо карыстаюцца вельмі вялікім попытам. Што ж датычыць размеркавання, то курсанты гэтага набору будуць змагацца з агнём толькі на тэрыторыі Беларусі.

БЛІЖНЯЕ ЗАМЕЖЖА

## Дзіця ў прабірцы: уся надзея на Расію

**Мы з мужам жанатыя ўжо восем гадоў, аднак дзяцей мець па некаторых прычынах не змаглі. Ці не маглі б вы паведаміць адрас установы, дзе нараджаюцца дзеці ў прабірках. Вы ж, канешне, разумееце ўсю важнасць гэтай праблемы для нашай сям'і.**

**Р. (г. Мінск).**

За кансультацыяй, паважаная чытачка, вы можаце звярнуцца ў любую гінекалагічную ўстанову па месцы жыхарства (у Мінску гэта гарадская клінічная бальніца, тэлефоны 25-98-97, 25-93-96, 25-99-94). Аднак са свайго боку раім вам, пакуль Расія зусім не стала замежнай краінай, звярнуцца ў Маскву ў Навукова-даследчы цэнтр перынаталогіі, акушэрства і гінекалогіі па адрасу: г. Масква, вул. акадэміка Апарына, д. 4. Тэлефон 438-51-71, або ў лабараторыю ранняга эмбрыягенезу, тэлефон 438-76-77 з 9 да 16 гадзін.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Кармушка для выбраных,

## або Як вышэйшыя ваенныя чыны спрабавалі наладзіць «прыхватызацыю»

**На працягу гэтага года ў рэспубліканскім друку, у тым ліку і ў «Звяздзе», з'яўляліся публікацыі пра розныя злоўжыванні ў вышэйшых ваенных сферах былой Беларускай ваеннай акругі. Як паказала праверка спецыяльна створанай урадавай камісіі на чале з намеснікам начальніка Упраўлення грамадскай бяспекі і абароны Савета Міністраў народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Валерыем Уладзіміравічам Паўлавым, сапраўды, выяўлена шмат такога, што не толькі не ўпрыгожвае нашых вайскоўцаў, але і мяжуе з крымінальнай адказнасцю. Вынікі праверкі разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, па іх прынята спецыяльная пастанова.**

**Рэдакцыя папрасіла кіраўніка камісіі пракаменціраваць ход праверкі, тыя недахопы, якія былі выяўлены ў ходзе яе.**

— Перш за ўсё трэба адзначыць, — гаворыць Валерый Уладзіміравіч, — што гэта камісія была створана па ініцыятыве ўрада, ёй дадзены шырокія паўнамоцтвы. Усё гэта зроблена, каб спыніць тыя негатыўныя з'явы, што пачалі ўзнікаць у войсках, у тым ліку і сярод вышэйшага каманднага саставу. Карыстаючыся неразбярыхай, выкліканай развалам былога Саюза, а адпаведна і наладжаных структур у сферы кіравання войскамі, ліквідацыяй Беларускай ваеннай акругі і стварэннем Міністэрства абароны, некаторыя асобы, блізка дапушчаныя да матэрыяльных каштоўнасцей, вырашылі палавіць рыбку ў мутнай вадзе. На што разлічвалі? Вядома, на беспакаранасць: маўляў, час цяпер такі, што можна лёгка нешта ўрваць для сябе ад грамадскага пірага, а можа не заўважаць. Толькі пралічыліся.

Апошнім часам ходзяць чуткі, маўляў, стварэнне камісіі — падкопы палкоўніка Паўлава. Дык вось, з усёй адказнасцю заяўляю: камісія створана па ініцыятыве ўрада, загад аб маім прызначэнні кіраўніком яе быў падпісаны 24 жніўня, у той час я якраз знаходзіўся ў адпачынку. Але паколькі даверылі такую адказную задачу, трэба было яе вырашаць як след.

**— З чаго давялося пачынаць: з чыстага ліста паперы, ці былі нейкія напрацоўкі?**

— Вядома, шэраг фактаў пра розныя злоўжыванні ўжо былі сабраны Пракуратурай Рэспублікі Беларусь і ваеннай пракуратурай, Камітэтам дзяржбяспекі, Міністэрствам унутраных спраў, Кантрольнай палатай Вярхоўнага Савета. Але асноўныя матэрыялы былі атрыманы ў ходзе праверак на месцах: людзі паверылі ў сур'ёзнасць нашых намераў, загаварылі, расказалі пра такія рэчы, пра якія ў іншы час і ў іншай абстаноўцы прамаўчалі б. Са свайго боку, падтрымку і дапамогу аказвала і Міністэрства абароны.

**— І куды была першая ваша паездка?**

— Перш за ўсё мы дасканала праверылі Мінскі, а таксама Бабруйскі і Барысаўскі гарнізоны. Дарэчы, мая першая камандзіроўка была менавіта ў Барысаў, у штаб 7-й танкавай арміі. Тут выявілі шэраг злоўжыванняў. «Вызначыўся» намеснік камандзіра арміі па тылу палкоўнік В. Іваніцкі. Як паказала праверка, на будаўніцтве яго дачы з красавіка 1991 года па чэрвень 1992 года ваеннаслужачыя адпрацавалі каля тысячы чалавека-дзён. Бясплатна браў розныя будаўнічыя матэрыялы, толькі на гэтым прысвоіў каля 15 тысяч рублёў, а ўсяго з улікам бясплатнага выкарыстання салдат, тэхнікі гэта сума складае недзе каля 80 тысяч рублёў.

Пабывалі мы на яго дачы, што ў вёсцы Вялікае Стахава — у дзесяці кіламетрах ад Барысава. Месца маляўнічае, над берагам Бярэзіны. На фоне старэнькіх драўляных сялянскіх хацін гэты двухпавярховы асабняк з цэглы выглядае сапраўдным палацам. Непадалёку ў суседнім хлеўчуку, побач з авечкамі, курамі, прытулілася сям'я пагарэльцаў. А побач — палац! Але гэта так, да слова. Калі б сам будаваў, і за кроўныя, то на здароўе, а тут у асноўным за дзяржаўныя ды яшчэ з выкарыстаннем дармавой рабочай сілы — салдат.

Ёсць сур'ёзныя прэтэнзіі і пытанні да начальніка штаба гэтай арміі генерал-маёра А. Раманка, які па абавязку службы павінен быў кантраляваць выкарыстанне тэхнікі, будаўнічых матэрыялаў, асабовага саставу. Але на многіх загадах па накіраванню чарговай групы салдат «для выканання службовых абавязкаў», а на самай справе — на будаўніцтва дачы для палкоўніка Іваніцкага стаіць подпіс генерал-маёра. Сакрэт просты — у нейкіх трохстах метрах ад дачы палкоўніка вырасла яшчэ больш прывабная дача генерала. Як паказала праверка, і на ўзвядзенні яго ўтульнага «гняздзечка» таксама працавалі салдацікі. Цяпер пракуратура вядзе праверку.

**— Нямала размоў вялося і вядзецца пра распрадажу ваеннай тэхнікі, маёмасці. Хто і калі пагрэў на гэтым рукі?**

— Вельмі шмат хібаў у пытанні рэалізацыі ваеннай тэхнікі дапушчана камандаваннем другой асобнай арміі і проціпаветранай абароны, якую ўзначальваў генерал - лейтэнант В. Асмалоўскі. Нягледзячы на існуючыя забароны, толькі сёлета з арміі ў камерцыйныя структуры і народную гаспадарку з рознымі парушэннямі прададзена 33 аўтамашыны. Агульныя страты ад яўна заніжаных цэн склалі 2 мільёны 680 тысяч рублёў. Я як кіраўнік групы, задаю сабе пытанне: каму выгадна падобная «камерцыя»? І сам жа сабе адказваю: некаму выгадна. Не «за дзякуй» жа недаплачваліся такія велізарныя сумы. 16 машын такім жа чынам былі прададзены ўпраўленнем гандлю былой Беларускай ваеннай акругі. Дарэчы, гэта ж ведамства прадало маскоўскаму спартыўна - камерцыйнаму клубу ўнікальнае гандлёва-тэхналагічнае абсталяванне за 35 тысяч рублёў у цэнах мінулага года. Мала таго, што вельмі прадзешавілі, дык яшчэ груба парушылі Закон Рэспублікі Беларусь па абароне спажывецкага рынку. І якое ж пакаранне чакала парушальнікаў? У асноўным усе абмежаваліся лёгкім спалохам.

Узбуджана крымінальная справа ў адносінах да былога начальніка Мінскай школы прапаршчыкаў падпалкоўніка В. Струкава. Як высветлілася, той злоўжываў службовым становішчам, прадастаўляў чарговыя адпачынкі курсантам, за што патрабаваў розныя паднашэнні. Пры гэтым нічым не грэбаваў: браў рознымі рэчамі, гарэлкай, харчам. Выяўлены таксама факты камерцыйнай дзейнасці, што працвітала ў той жа другой асобнай арміі ППА.

**— Хацелася б ведаць, а якія меры намячае ўрад, каб спыніць гэтыя злоўжыванні, рэфармаваць і ўмацаваць нашу армію?**

— Па-першае, многія афіцэры і прапаршчыкі, якія дапусцілі сур'ёзныя парушэнні, рознага роду злоўжыванні, вызвалены ад займаемых пасад і звольнены з арміі, па некаторых фактах узбуджаны крымінальныя справы. Забаронена ўсялякая камерцыйная дзейнасць для ваеннаслужачых.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

## СЛУЖБА — НЕ МАЛІНА

Што ні кажыце, а служыць вайскоўцу у дысцыплінарным батальёне цяжка. Прынамсі, тым, хто патрапіў сюды па прыгавору ваеннага трыбунала. Закон ёсць закон: парушыў яго — нясі адказнасць, выпраўляйся. Для асуджаных тут свой расклад дня, ён не багаты на лішні адпачынак, але ўдосталь дае часу для працы, як гэта кажуць, «на карысць грамадству». Не забываюць асуджаныя і салдацкую навуку — нават у карцэры праходзяць



заняткі па страявой падрыхтоўцы (на фота ўверсе).

Нялёгкая служба і ў тых, хто ахоўвае асуджаных, у рэшце рэшт такіх жа звычайных хлопцаў, нядаўна прызваных на службу. Бяссонныя ночы на каравульных вышках, трэніроўкі з спецыяльнымі сабакамі, спецпадрыхтоўка — усё гэта іх будні. Перад звальненнем у запас кожнаму хацелася б сфатаграфавацца на памяць з Мухтарам — самай разумнай і моцнай аўчаркай з падраздзялення чацвераногіх памочнікаў роты аховы.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

ПІСЬМО Ў «ЗВЯЗДУ»

# ЗАКОН ЦІ ДЫШАЛЬ?

Да вас звяртаюцца работнікі Капыльскага арэнднага прадпрыемства бытавога абслугоўвання. Мы вельмі хочам расказаць чытачам пра тое, як наш былы дырэктар Віктар Мікалаевіч Барысаў вырашыў стаць прадпрымальнікам. А дакладней — капіталістам. За кошт нашага камбіната.

Накіравалі яго да нас дырэктарам яшчэ ў застойныя часы. У той час у нас не пыталіся: гэта было не ў модзе. Па адукацыі новы дырэктар аказаўся настаўнікам гісторыі. «Што ж, настаўнік дык настаўнік, можа чаму новаму навучыць», — вырашылі мы.

Да з'яўлення ў нас новы дырэктар працаваў на розных пасадах. Праўда, нідзе доўга не затрымліваўся. Відаць, не знаходзіў сябе, а, можа, і па іншых прычынах, мы не ведаем.

Узяўся новы кіраўнік кіраваць і вучыць. У камбінаце пачалі варыць мыла, будаваць цяпліцу, вырабляць сувеніры, шыць тапачкі з аленевага футра, унты. Праўда, нічога не даводзілася да лагічнага канца, але затое скандалаў, нейкіх расследаванняў, спрэчак у калектыве і па-за ім хапала з лішкам, нават замежнае радыё вяшчала пра капыльскія справы.

Падзьмуў вецер перамен, абвясцілі перабудову. Мы ўсе, канешне, «за»: надакучыла жыць у застоі. Пачалі з'яўляцца першыя кааператывы і ў нашым раёне. Адразу не разбярэш, добра гэта ці дрэнна. Нам гавораць: «добра», хутка будзе ўсяго багата, як пры камунізме, толькі пачакайце і лепш працуйце. Мы згодныя: прывыклі ж. Прапанаваў і наш дырэктар арганізаваць асацыяцыю, «Будзе вялікі прыбытак камбінату», — пераконваў ён нас. І пераканаў. Хоць многія сумняваліся: бо нават жа слова нейкае незразумелае. Аднак калі прыйшла кампанія ўсіх выбіраць, мы выбралі яго дырэктарам зноў.

Падтрымалі большасцю і яго новую задуму. Пераканаў В. Барысаў і раённае кіраўніцтва. Так з'явілася ў Капылі новая фірма пад назвай «Асацыяцыя «Паслуга». У яе, акрамя камбіната, увайшлі яшчэ некалькі раённых арганізацый і прадпрыемстваў — і лёд крануўся. Камбінат прадаставіў памяшканне пад кантору, а абсталяваную дыспетчарскую перамясцілі ў непрыстасаванае памяшканне: толькі б «дзіцятка» расло без турбот. Перадалі асацыяцыі ў прыдачу сталярны цэх, пацяснілі склады, прадаставілі тэрыторыю базы (гасдвара) камбіната... Карацей кажучы, закіпела работа. Ну, а наш дырэктар заняў яшчэ адно крэсла: стаў прэзідэнтам асацыяцыі «Паслуга».

Увесь камбінат пачаў працаваць на асацыяцыю. Разам з ПМК-11 арганізавалі цэх па вырабу гранітных помнікаў, на вытворчых плошчах і абсталяванні камбіната адкрылі швейны цэх і ўчастак па пашыву галаўных убораў. На тэрыторыі ПМК-11 з'явіўся ўчастак па вырабу сценавых блокаў. «Будзе добры прыбытак камбінату, — гаварыў дырэктар-прэзідэнт. — Вось толькі асацыяцыя памацнее і ўстане на ногі». Мы, канешне, спадзяваліся, бо столькі на гэтую асацыяцыю папрацавалі.

А дырэктар-прэзідэнт усё не ўтаймоўваўся. «Давайце дзяліць камбінат на малыя прадпрыемствы, — пераконваў ён. — З акружэння выходзіць малымі групамі зручней...» Нам, аднак, было незразумела, хто нас акружыў... Але хаця нарадзіўся дырэктар-прэзідэнт пасля Вялікай Айчыннай і ад Афганістана бог засцярог, але ж — ён, настаўнік гісторыі, напэўна, усё ведае...

Правялі сход: адны былі «за», другія — «супраць». Усё ж прынялі рашэнне ствараць малое прадпрыемства. Толькі вось на якіх вытворчых участках, дырэктар-прэзідэнт не прапанаваў. Не прыдумаў яшчэ, мусіць, вырашылі мы. А, можа, часу не хапіла. Як неўзабаве стала нам ясна, усё ён прадумаў і вырашыў за ўсіх даўно.

У вялікім сакрэце ад калектыву адбыўся сход на ўчастках па выпуску рытуальных вырабаў і металавырабаў. Гэтыя ўчасткі ў камбінаце былі самыя прыбытковыя і пакрывалі расходы па абслугоўванню сельскага насельніцтва. Бо наш жа раён пераважна сельскагаспадарчы, большасць насельніцтва жыве ў сельскай мясцовасці. Камбінат мае на сяле 32 комплексныя прыёмныя пункты. На тайным сходзе дырэктар-прэзідэнт пераканаў калектыў — 30 чалавек — стварыць малое прадпрыемства. І вось унутры камбіната на яго вытворчай базе (на гасдвары) створана яшчэ адно малое прадпрыемства пад назвай «Час». У дадатак перадаў дырэктар-прэзідэнт малому прадпрыемству хімчыстку і пральню, а таксама грузавы аўтамабіль. «Падабраўся» і дырэктар малога прадпрыемства — старшыня прафкома камбіната Людміла Івашуціна. А наш дырэктар-прэзідэнт праз некалькі дзён стаў толькі прэзідэнтам. Дырэктарам яму надакучыла быць. Праявілася старая звычка мяняць крэслы...

Не паспелі мы апамятацца, як застаўся камбінат без сталярнага цэха, гаражоў і цэха металавырабаў, без складаў, абсталявання, транспарту і г. д. Штосьці перайшло ў асацыяцыю, штосьці — у малое прадпрыемства «Час». А галоўнае, усе асноўныя фонды, як нам растлумачылі ў бухгалтэрыі, дырэктар-прэзідэнт сваім загадам перадаў малому прадпрыемству бясплатна. Ён не атрымаў на тое згоды ні ўпраўлення бытавога абслугоўвання, ні калектыву камбіната, ні райвыканкома. А абсталяванне сталярнага цэха, швейнае абсталяванне, будынак складана-бытавой тэхнікі прэзідэнт у дырэктара-прэзідэнта выкупіў па астаткавым кошце. Скажыце: хіба не справа для пракурора? Ад усёй нашай базы засталася толькі прахадная, вартавы сабака ды сцяжынка на тэрыторыі гасдвара. Але і тое вырашыў прэзідэнт забраць у асацыяцыю, пераконваючы выканком, што без іх асацыяцыя не можа планава развівацца. А ў дадатак вырашыў далучыць і малое прадпрыемства «Час», прапанаваўшы дырэктару прадпрыемства Л. Івашуцінай перайсці ў асацыяцыю. Аднак не атрымалася: у спешцы не ўлічыў, што для пераходу ў асацыяцыю малому прадпрыемству «Час» патрэбна згода заснавальніка, г. зн. калектыву камбіната. Але мы ўжо канчаткова зразумелі задуму былога дырэктара: спачатку стварыць на базе камбіната асацыяцыю, потым раздзяліць камбінат на малыя прадпрыемствы, а дакладней — забраць найбольш выгадныя і прыбытковыя вытворчасці ў асацыяцыю, а астатняе няхай развальваецца. Невялікая страта — будуем жа капіталізм. А галоўнае — рызыкі ніякай: і грошай жа не затраціш асабістых, і капіталістам станеш. А капыляне не ў лік...

«Дзіцятка», г. зн. асацыяцыя, павінна было «з'есці» свайго бацьку — камбінат. Але нам чамусьці гэтага не хочацца. Вырашыў парадзелы наш калектыў у 250 чалавек на сходзе вярнуць камбінату тое, што ў яго незаконна забралі. Бо без рамонтных майстэрань, сталярнага цэха, складаў і гаражоў, без вытворча-рамонтнай базы, зразумела, ніводнаму камбінату не працаваць. Трэба будаваць новую базу, а гэта 15—20 мільёнаў. Ёсць, праўда, і іншае выйсце: закрываць сельскія майстэрні і комплексныя прыёмныя пункты, звальняць рабочых. Хто ж будзе абслугоўваць сельскіх жыхароў? З 48 тысяч жыхароў раёна 52 працэнты складаюць асобы пенсійнага ўзросту. Іх і так пазбавілі, шляхам нястрымнай інфляцыі, апошніх зберажэнняў на «чорны дзень». Навяўленыя ж прадпрымальнікі яшчэ доўга не паедуць на сяло збіраць заказы, аказваць неабходныя паслугі старым, а гэтым неабходна займацца сёння. Ды і наўрад ці па кішэні будуць старым гэтыя паслугі.

Вырашылі мы выйсці з асацыяцыі. Дарэчы, прыбытку ад яе за два гады работы камбінат не атрымаў ні рубля. Вырашылі ліквідаваць, як заснавальнікі, малое прадпрыемства «Час», вярнуць усё, што незаконна забраў былы дырэктар у камбіната. Новы дырэктар выдаў загад аб ліквідацыі малога прадпрыемства. Ды не тут было: пракуратура адмяніла загад як «незаконны».

На «абарону» малога прадпрыемства прыехаў народны дэпутат І. Герасюк. На сходзе мы яму гаварылі, што створана прадпрыемства незаконна, без згоды вышэйшага органа кіраўніцтва камбіната — канферэнцыі працоўнага калектыва, па асабістаму загаду дырэктара, ім жа забрана ў работнікаў камбіната і бясплатна перададзена ці «падорана» малому прадпрыемству асноўных фондаў на суму 232 тысячы рублёў. На сходзе мы яму гаварылі таксама, што на камбінаце працуе 250 чалавек, інтарэсы якіх нельга процізаконна проціпастаўляць 40 чалавекам, што працуюць у МП. Гэта ўсё ж інтарэсы большасці, інтарэсы сельскіх жыхароў, інтарэсы раёна ў цэлым. Але Герасюк пярэчыў: што і створана МП быццам бы незаконна, але аб'ядноўвацца нельга, паколькі гэта не адпавядае праводзімай цяпер у рэспубліцы палітыцы на стварэнне малых прадпрыемстваў. Мы яму гаварылі: «Вы — наш дэпутат, мы вас выбралі для абароны нашых інтарэсаў». Але, акрамя як кінуць фразу: «Надакучыла мне слухаць пра гэтыя выбары», дэпутат Герасюк не знайшоў, што нам адказаць... Ва ўсім вінаватыя былыя партыйныя і савецкія кіраўнікі, гаварыў ён.

Аднак мы лічым, што ва ўсім вінаваты не камуністы, сацыялісты, апартуністы, правыя, левыя, зялёныя ці чырвоныя, а проста прагныя, ахвочыя да лёгкай нажывы людзі.

Вось быў у нас дырэктарам Н. Г. Стаднік. Добры быў дырэктар, строгі. Усе майстэрні і комплексныя прыёмныя пункты прывёў у поўны парадак. Пры ім у камбінаце пабудавалі гаражы, арганізавалі ўчастак па распілоўцы лесу. Паўсюдна быў парадак і дысцыпліна. Стаднік у першую чаргу клапаціўся пра поспехі камбіната, пра яго работнікаў. Забралі яго ў нас, даручылі наладжваць работу ў Капыльскім райспажыўсаюзе...

А ці можна дрэннае сказаць пра старшыню выканкома раённага Савета У. У. Сасноўскага? Родам з Капыльскага раёна, ён усё магчымае і немагчымае робіць для сваіх землякоў. Пабудавалі лепшы ў Беларусі сельскі спартыўны комплекс з басейнам і спартыўнымі заламі, заасфальтавалі ўсе дарогі, шмат будуюць жылля, у маленькім горадзе Капылі ўжо шэсць дзіцячых садкоў, нават газ плануюць падвесці...

А такія Барысавы — усё для сябе, жывуць па прынцыпу: раздзяляй і ўладар, наловяць рыбкі ў мутнай вадзе — і за мяжу, у цёплыя краі. А мы — цягай адзін аднаго за чубы, ды разбірайся. Не хапала яшчэ нам капыльскага Карабаху. Час нашаму ўраду зацыраваць дзіркі ў мяшку з законамі, каб не шнырылі несумленныя «прадпрымальныя» мышкі!

Звярталіся мы са сваімі бедамі ў выканком, на пасяджэнні якога было прынята рашэнне аб мэтазгоднасці ліквідацыі МП «Час» і наданні яму першапачатковага юрыдычнага статусу, г. зн. аб пераўтварэнні яго зноў у структурнае падраздзяленне камбіната. Дырэкцыя камбіната дала гарантыю выканкому і работнікам малога прадпрыемства на працаўладкаванне ў камбінаце і захаванне іх рабочых месц. Рашэннем выканкома была створана ліквідкамісія і вызначаны тэрмін для правядзення работ па пераўтварэнню малога прадпрыемства ў структурнае падраздзяленне РКБА ў тры месяцы. Быццам, справядлівасць адноўлена.

Аднак пракуратура раёна, маючы, па ўсёй бачнасці, нейкія іншыя, чым законнасць і справядлівасць, матывы, пачынае вышукваць прычыны для прынясення пратэсту ў парадку агульнага нагляду. І хоць у працэсе ліквідацыі прафсаюзным органам належным чынам — за тры месяцы да таго, як будзе ліквідавана МП «Час» як самастойная юрыдычная асоба — было паведамлена аб маючай адбыцца ліквідацыі, абком прафсаюзаў накіраваў на месца тэхнічнага і прававога інспектараў працы для высвятлення сітуацыі, а пракурор В. Науменка ўказвае ў сваім пратэсце на адсутнасць паведамлення прафсаюзным органам за тры месяцы. А як жа быць тады з агульным сходам працоўнага калектыва камбіната, які праводзілі ў нас вышэйназваныя работнікі абкома прафсаюзаў з мэтай высвятлення прычын, прымусіўшых наш калектыў звярнуцца ў выканком раённага Савета з хадайніцтвам аб закрыцці малога прадпрыемства?! Ці нашаму паважанаму пракурору ўдасца пераканаць усіх нас, 250 работнікаў камбіната, што такога сходу не было?!

Дык як жа быць, хто нам растлумачыць, чым павінны кіравацца мы — законам ці нечым іншым, пры рашэнні пытанняў дзяржаўнай важнасці? Чаму такім кіраўнікам, як наш былы дырэктар, дазволена развальваць прадпрыемствы, перацягваць усё тое, што можна ў асацыяцыі, кааператывы і іншыя малыя прадпрыемствы? Чаму закон і служыцелі закона маўчаць у такіх выпадках? Можа Вы, паважаная рэдакцыя, нам адкажаце? Мы не супраць рынку. Мы за прыватызацыю, мы за добрага гаспадара, але станавіцца ім трэба сумленна, а не так, як наш былы дырэктар. Мы так разумеем.

**З павагай — калектыў Капыльскага арэнднага прадпрыемства бытавога абслугоўвання насельніцтва: А. БУТКЕВІЧ, М. ЯСЮЧЭНЯ, А. ЖГУН, В. ВОЛКАЎ, С. СЯМАШКА, Е. РУДНІЦКАЯ, М. ГАЎРЫЛОВІЧ, В. КАЗАДОЙ, А. ФАЛЬКО, Г. ЮНЕВІЧ, М. ВАРАБЕЙ, А. АНДРУШКЕВІЧ, Г. МАКАРЧУК, Л. СУХАВЕРХ, А. ГАНЧАР, Г. РЫЖЫНСКАЯ, С. БУРМА, Ф. КІСЕЛЬ, М. ВАРОНІЧ, Е. АКУЛІЧ** і іншыя (усяго 142 подпісы).

СУБ'ЕКТЫЎ

# ПРЫВІТАННЕ, Я МІЛЬЯНЕР

## НАВАТ СЦІПЛЫЯ МІЛЬЯНЕРЫ — НАШАГА ПОЛЯ ЯГАДА. ХОЦЬ І МАРАЦЬ АБ СЕЙШЭЛАХ.

**Я буду мільянерам, ты будзеш мільянерам, мы ўсе будзем мільянерамі, толькі... купіце акцыю. Рэклама? Чарговая правакацыя! Да чаго ж гэта ўсё надакучыла! Працей простага выкінуць грошы на вецер, купіць нікчэмную паперку (прабачце, акцыю) — і застацца з носам.**

Намнога лепш набыць за сумленна зароблены мізэр пакаёвыя тапачкі або туфлі фірмы «Скараход», пакінуць грошы на малако з хлебам, зрэдку на мяса, і не думаць аб тым, што, акрамя цябе, зацюканага грамадзяніна, але з палымяным сэрцам і пустым страўнікам, існуюць нейкія там прастытуткі, ценевікі, мільянеры, бізнесмены... Жывуць, ды й ікру з маслінамі жуюць. Ну, і хай сабе.

Але надыходзіць такі святочны момант у тваіх скрозь будзённых днях, калі па прычыне абставін, выпадкова трапляеш на вячэру да лепшага сябра бацькі, брата, сястры і... І раптам з вуснаў захмялелага гаспадара злятаюць словы наконт добрага самаадчування і прыхаванай скарбонкі з пяццю мільёнамі рублёў (Лічба, можа, і недакладная, але ж...). Побач магнітафон дабрынінскім голасам спявае, каб яму не сыпалі соль на раны, і хвілінная цішыня за сталом.

Адказная заява мільянераў аб пяці мільёнах падмацоўваецца абсалютна спакойнымі тварамі прысутных. Падумаеш, здзівіў. Больш хітрыя госці ўсміхаюцца: у цябе, браце, грошай будзе куды болей. Карацей кажучы, для ўсіх, акрамя цябе, ніякай навіны ў тым, што сабраліся за сталом у мільянера, няма. Таму і разяўлены рот (натуральна, ад нечаканасці) у пакоі толькі адзін — твой. І апавяданне пра салодкае жыццё новага звышбагатага знаёмага, пра вопыт «рабіць грошы» слухаеш адзін ты (іншым прысутным гэта ўжо нецікава). Прыемна, што гутарку падтрымлівае кубак добрай кавы і дым ад цыгарэт «Кент». Непрыемна толькі, што не ведаў, да каго ішоў у госці, і ў выніку крыху разгубіўся. Але гэта ўжо справа іншая...

### З ДАСЬЕ СЯМ'І З ШАСЦЮ НУЛЯМІ

Сяргей — мільянер. Сапраўдны беларус. Займаецца вялікім тэнісам. Кампрамісны. Характар вытрыманы. Былы афіцэр ВМФ. «Пенсіянер». Ажаніўся па каханню. Дзяцей пакуль няма. Абмяняцца вопытам каваць жалеза, пакуль тое гарачае, праз прэсу адмовіўся. Раскрыць падпісчыкам газеты «Звязда» прозвішча жадання не выказаў.

Фаіна — мільянерка, жонка Сяргея. Сімпатычная жанчына. Выйшла замуж таму, што ў маладосці (хаця і зараз не старая) любіла залатыя пагоны, белую форму ваенна-марскіх афіцэраў і, вядома, мужа. Хатняя гаспадыня. Падтрымлівае фізічную форму цела на трэнажорах. Да сямейнага дабрабыту за 2 гады прывыкла. Аб узросце гаварыць адмовілася.

### КОЖНАМУ СВАЁ, АБО МАРЫ МІЛЬЯНЕРАЎ

Гаспадыня раскошных апартаментаў спачатку хацела абмежаваць маю цікавасць да яе жыцця экскурсіяй па хаце. Але ўсё ж такі што-кольвек «выцягнуць» з Фаіны ўдалося. Аказваецца, ёсць у Фаіны блакітная мара аб дачы, якая стаяла б дзе-небудзь на беразе Сейшэльскіх астравоў. Чаму менавіта Сейшэльскіх? Яна і сама не ведае: магчыма таму, што там растуць бананы (?) і грэе моцна сонца. Вось хочацца там займець дачу — і баста. Праўда, муж жонку не падтрымлівае: ці то расходы вялікія, ці то месца не падабаецца, ці то гэта нешта нерэальнае. Фаіна нічога не ведае аб дзіўным непрыняцці сваёй мары мужам.

У Сяргея ж больш «сціплыя» мары. Добра было б, кажа мільянер, каб у нашай дзяржаве чалавек з грашыма ведаў, на што іх патраціць, акрамя як на хату, дачу, машыну і, вядома ж, на расшырэнне сваёй справы. Рэкламаваць сваё імя, перадаючы грошы ў дзіцячыя дамы, бальніцы і г. д., Сяргей не хоча: марныя намаганні, ды і на залётных рэкеціраў баіцца нарвацца. І яшчэ Сяргей на сто працэнтаў упэўнены, што будучага нашчадка прапусціць праз жорны каледжа і Кембрыджскага ўніверсітэта.

### АДЗІН, ЗУСІМ АДЗІН

Прадпрымальнікаў у нашым грамадстве (ды яшчэ з мільёнамі за душой) вельмі мала. Але ў апошнія часы стараюцца яны трымацца разам: справа выгадная, глядзіш, можна будзе павялічыць капітал сумеснымі намаганнямі. Сяргей трымаецца на плыву адзін. Грошы зароблены, большасць з іх укладзена (аднаму яму вядома куды). Карацей кажучы, у грашовай масе няхваткі пакуль няма. Знаёмых мільянераў па пальцах можа пералічыць, і нават цесных сувязей з імі не падтрымлівае. Навошта? Ціхі беларускі мільянер, можна сказаць, амаль падпольны. Адзінае стымулюючае задавальненне ў жыцці — сесці за калькулятар вечарам і падлічыць: колькі накоплена, які прыбытак чакаецца і на які час «драўляных» хопіць. Тыповы скупы рыцар атрымліваецца.

І што цяжка не заўважыць (дакладней, міма вушэй прапусціць) — апавяданні Сяргея асабліва прыбліжаным пра тое, з чаго ён пачынаў. Як высветлілася, з адной бензапілы і партыі дзвярных замкоў. А ўвогуле, сам Сяргей разумее, што так жыць нельга, сумна. Адно спадзяванне, што яго жыццёвая руціна развеецца са з'яўленнем дзіцяці, будучага нашчадка. Цьфу ты, цемра. У чым сэнс існавання? На думку Сяргея, у накапленні.

### ЗА МУЖАМ, ЯК ЗА СЦЯНОЙ

Якога д'ябла Фаіна пойдзе кудысьці працаваць? Хопіць, пасядзела ва ўстанове. Цэлых пяць гадоў. Цяпер іншае жыццё, малінавае. Праўда, пакуль што сама бегае па магазінах, на рынак. Але гэту практыку вырашыла спыніць. Зараз Сяргей шукае жанчыну, якая будзе весці хатнюю гаспадарку. У Фаіны і так не хапае часу на масаж, вывучэнне англійскай мовы, наведванне басейна, курсаў па ваджэнню аўтамабіля, нарэшце, курсаў па падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне народнай медыцыны. Круціцца, як вавёрка ў коле. Як толькі чалавека хапае на магазіны? Але навошта ёй тыя курсы спецыялістаў народнай медыцыны. Усё роўна працаваць не будзе.

Эх, аб адным шкадуе Фаіна зрэдку па вечарах: не можа выйсці з Сяргеем у вялікі свет, не прымае ўдзелу ў балях і сустрэчах беларускай эліты. Ні на людзей паглядзець, ні сябе паказаць. А ўпрыгажэнняў і вячэрніх туалетаў у яе хапае. Калі прадаць іх, — можна без мужа гадоў пяць бязбедна пражыць.

### ЖЫЦЦЁВЫЯ КЛОПАТЫ

Бяда прыходзіць заўсёды, калі яе не чакаюць. Не абмінула яна і сям'ю мільянера. Любімы пудзель Фаіны, Прынц, захварэў. Нічога не хоча есці, вочы сумныя, насмарк. Гаспадыні таксама не да жартаў: паспела прывыкнуць да сабакі і палюбіць яго. Адно добра, што пасля доўгіх пошукаў знайшла высокааплатнага і добрага ветэрынарнага ўрача. Цяпер можна быць спакойнай: здароўе Прынца ў бяспецы.

### АБВЯРЖЭННЕ

Багатым больш падабаецца ездзіць на шыкоўных машынах і есці на абед першае, другое, запіваючы ўсё гэта добрым віном. Хіба гэта дрэнна? Не, усё залежыць ад паўнаты кішэняў, і толькі. Іншая справа (якая падкупляе простых смяротных), што і ў багатых ёсць свае дзівацтвы, якія лепш за ўсё намякаюць на тое, што і беларускія мільянеры выйшлі з народа. І пляваць, што ў іх ёсць дачы, хаты, машыны, палюбоўніцы... Галоўнае, улавіць у характары, у звычках багатых нешта блізкае, роднае. Напрыклад, Фаіна любіць выпіць «Жыгулёўскага» (усё ж такі напітак, далёкі ад Багоў). І гэта ніколькі не здзіўляе і нават не прыніжае гонар беларускай мільянеркі. Хаця «плебейскі» напітак, ёй, канешне, не да твару (размова аб падтрыманні аўтарытэту мільянераў). Але, згадзіцеся, што такая мілая звычка прымушае нас, людзей без мільёнаў, ставіцца да яе больш цярпіма. Нашага поля ягада. І даўно трэба ўжо адысці ад саўдэпаўскіх стэрэатыпаў: добра жывеш — ганьба табе. Варушыце мазгамі, суайчыннікі, спрабуйце (дарэчы, на галодны страўнік лепш думаецца) зарабіць свой мільён.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# РОЗГАЛАС

## НЕ САЎГАС — АДНЫ СТРАТЫ

Роўна тыдзень прайшоў з таго часу, як на перагоне Кульган — Запацце грузавы састаў «праехаўся» па шасці каровах саўгаса імя Ціміразева Глыбоцкага раёна. І вось новае ЧП. На тым жа самым перагоне дызель - поезд Маладзечна —Полацк збіў трактар «МТЗ-80», які належаў вышэйпамянёнаму саўгасу. Ахвяр, на шчасце, няма. Аднак затрымка поезда склала больш як 20 хвілін, а трактарны парк саўгаса зменшыўся на адну адзінку.

**БелаПАН.**

## ДАЯРКІ ПРАПАНАВАЛІ ПРАКУРОРУ... ПАДАІЦЬ КАРОЎ

**Як канстатуе столінская раённая газета «Навіны Палесся», мода вырашаць пытанні з кіраўніцтвам метадам забастовак для Століншчыны стала ўжо прывычнай з'явай. У верасні, напрыклад, адмовіліся ад работы даяркі фермы «Варані» калгаса «Ленінскі шлях». Незадаволеныя вялікай розніцай паміж сваёй зарплатай і зарплатай канторскіх работнікаў, яны два разы не выйшлі на дойку. Пасля чаго даяркам паабяцалі павялічыць зарплату на 60 працэнтаў...**

**А крыху раней баставалі даяркі Аўсяміраўскай фермы калгаса «Мір». Так яны адрэагавалі на рашэнне раённага пракурора, які патрабаваў вылічыць з іх зарплаты грошы за малако нездавальняючай якасці. На што даяркі прапанавалі пракурору самому пайсці на ферму даіць кароў. Канфлікт быў уладжаны пасля ўмяшання старшыні калгаса...**

**Рыгор ПАЛЯШУК. (БелаПАН).**

## РЭКВІЕМ ПА СІМЯОНУ ПОЛАЦКАМУ...

Стала традыцыйным правядзенне ў мінскім Палацы мастацтваў конкурсаў на лепшыя праекты помнікаў: Ф. Скарыне, Ф. Багушэвічу, ахвярам сталінскага тэрору ў Курапатах. На гэты раз на суд гледачоў прадстаўлены толькі два варыянты помніка Сімяону Полацкаму — паэту і дзяржаўнаму дзеячу. Больш жадаючых удзельнічаць у конкурсе, на жаль, не знайшлося. Гэта і не дзіўна: невялікія прэміі і невядомасць далейшага лёсу работ нікольк не натхняюць людзей на творчыя пошукі. Так, пераможца конкурсу на лепшы помнік Ф. Скарыне Алесь Дранец атрымаў толькі 2 тысячы рублёў. Доўга прыйшлося яму абіваць парогі, перш чым быў заключаны дагавор на рэалізацыю праекта. Нямала праблем узнікла і з вырабам непасрэдна самога помніка. Відаць, улічваючы гэты сумны вопыт, скульптары і мастакі лічаць за лепшае накіроўваць свае творчыя вынаходствы ў іншае русла.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ. (БелаПАН).**

## ПРЫЙДЗЕМ ДА ЗГОДЫ?

У нядзелю, 18 кастрычніка, Партыя народнай згоды запрасіла мінчан на свята «Клічам да згоды», якое адбудзецца ў парку імя Горкага.

«Наша мэта, — адзначаецца ў лістоўках і рэкламах ПНЗ,— не дапусціць сацыяльных абвастрэнняў, забяспечыць мірны ход палітычных і эканамічных рэформ, выйсце з крызісу, дабрабыт кожнай сям'і».

Будзем спадзявацца, што надзеі ПНЗ здзейсняцца.

У праграме свята: прэзентацыя газеты «Згода», канцэрт вядомых вакальна - інструментальных ансамбляў «Ласкавы май», «Маленькі прынц» «Маршал», «Салодкі сон» і інш.

Зазначым, што галоўны спонсар свята генеральны дырэктар творчай студыі для здольных дзяцей-сірот «Ласкавы май» Андрэй Разін выступае бясплатна.

## ЦЭНЫ НА РЫНКАХ

**(у рублях)**

| | Масква | С.-Пецярбург | Мінск |
|---|---|---|---|
| Ялавічына | 150—400 | 250—500 | 160—200 |
| Свініна | 200—400 | 300—600 | 200—300 |
| Куры | 300—500 | 300—500 | — |
| Масла | — | 800 | 220—290 |
| Алей | 250 | 200 | — |
| Малако | 70 | — | — |
| Тварог | 120—180 | 100—150 | 80 |
| Смятана | 300 | 400 | 120 |
| Яйкі | 100 | 100 | 50—70 |
| Бульба | 20—25 | 25—40 | 15—25 |
| Памідоры | 60—80 | 45—250 | 40—50 |
| Агуркі | 100 | 150—200 | 60 |
| Цыбуля | 40—60 | 35—50 | 35 |
| Яблыкі | 40—50 | 50—200 | 50—60 |

**РІД.**

**Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: У. Здановіч, І. Карней, А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка.**

## «БАРЫСАЎСКІЯ «РАКФЕЛЕРЫ» ВЕЛЬМІ ЎТУЛЬНА АДЧУВАЮЦЬ СЯБЕ НА САЛДАЦКІХ МОГІЛКАХ. ДЗІКА, АЛЕ ФАКТ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

кварталы, або з Сеулам, дзе таксама яшчэ нярэдкія жабрацкія рэгіёны ўпярэмешку з шыкоўнымі сучаснымі... І я хачу сказаць, што ваш слаўны горад ні ў чым не ўступае ні Азіі, ні Лацінскай Амерыцы. Не ведаю, чаму вашы гарадскія ўлады не бачаць тых людзей, якія жывуць па 5 чалавек у пакоі і плошчай 10 кв. метраў, у пакоі, які на паўметра ўрос у зямлю і які ўжо з'ела цвіль. Я вельмі быў здзіўлены, што ваша кіраўніцтва нават не ведала, як праехаць да гэтага дома.

А да гэтага ў лідэра парламента Беларусі была вельмі важная і насычаная праграма ў час наведання завода аўтатрактарнага электраабсталявання. У суправаджэнні дырэктара прадпрыемства Мікалая Бусла Станіслаў Шушкевіч пазнаёміўся з вытворчымі магутнасцямі БАТЭ. Не трэба расказваць, якое значэнне мае гэты завод для Беларусі. Прадукцыя, попыт на якую заўсёды гарантаваны: стартэры для «Жыгулёў», «Масквічоў», вялікагрузных аўтамабіляў і іншых сродкаў руху. Рынак збыту — вядома, краіны СНД, а таксама азіяцкі рэгіён на чале з Кітаем. Не апошнюю ступеньку займаюць і заказы з боку Міністэрства абароны. Так што беспрацоўе пакуль нікому не пагражае. Дарэчы, тыя ж стартэры па сваёй якасці намнога вышэйшыя за замежныя аналагі. Няма скаргаў і на зарплату. Нават Шушкевіч заўважыў, што ў параўнанні з аршанскім «Легмашам», дзе ён пабываў напярэдадні, «...ваша жыццё — проста маліна».

Адчуўшы смак, кіраўнік парламента зрабіў яшчэ адну паездку ў раён узвядзення архітэктурных цуда-збудаванняў. На гэты раз нечаканых гасцей уразіла стылізацыя пад даўніну (зноў жа ў тры паверхі) на ўскраіне вёскі Вялікае Стахава, дзе будучымі гаспадарамі павінны стаць зусім немалыя людзі з «Аўтагідраўзмацняльніка». І тут справа кіпела на ўсю моц — завіхаліся работнікі АБУ-17.

Тут жа Шушкевічу задалі, што называецца, лабавое пытанне: а ці хацелася б так жыць?

— Па-першае, за ўсе гады сумленнай, я падкрэсліваю гэта слова, працы, я не зарабіў і малой часткі на ўзвядзенне такога гмаху. А па-другое, мне было б неймаверна сорамна ў такі час жыць па-каралеўску!

Пасля непрацяглага абедзеннага перапынку Станіслаў Шушкевіч сустрэўся з жанчынамі, якія чакалі адкрыцця прадуктовага магазіна. І адразу ж двойчы быў «накаўціраваны»: спачатку нехта ахрысціў яго Францам Францавічам, а потым і наогул Вячаславам Францавічам, і толькі пасля дадатковага прадстаўлення народ нарэшце прызнаў свайго «бацьку». Дарэчы, у гэты дзень Станіслаў Станіслававіч даволі жвава прабегся па асноўных гандлёвых кропках Барысава.

Прыемна ўразіў фірменны магазін «Залаты пеўнік» саўгаса «Гвардыя», поўныя прылаўкі якога абнадзеілі б любога наведвальніка. Але наш народ даўно ўжо пакінуў катэгорыю маўчуноў. Дружнымі рэплікамі міф аб багацці быў ушчэнт развянчаны. Ні ўчора, ні месяцам раней паліцы магазіна не маглі пахваліцца нічым падобным. Ігра «на публіку» не ўдалася.

### ФЕРМЕРСКІЯ КРАЯВІДЫ Ў ПАТОКУ НЕЗАДАВОЛЕНАСЦІ НАЧАЛЬСТВА

Далейшы шлях кіраўніка парламента пралёг у бок саўгаса «Гвардыя», дзе ён азнаёміўся з тэхналогіяй вырошчвання, адкорму і забою гусей.

Па словах дырэктара саўгаса Васіля Седзіна, птушкагадоўля на Беларусі знаходзіцца ў стане глыбокага заняпаду. Праўда, цяжка зараз сказаць, што ж усё-такі на ўздыме?

Далей павінна была адбыцца сустрэча з мясцовымі фермерамі. І хаця гадзіннікі ўпэўнена паказвалі даволі позні час, навaспечаныя фермеры ўсё не маглі адарвацца ад сваіх надзелаў. Адважная чацвёрка ў складзе братоў Лыскавец і дуэта Андрэйчык — Ермячонак сустрэлі высокага госця са зразумелым задавальненнем, прынамсі, ёсць перад кім раскрыць душу. І адпаведна атрымалі ўважлівага слухача ў асобе кіраўніка рэспублікі.

Зараз кожны з іх мае па 10 га зямлі, але, на іх практычную думку, гэтага смехатворна мала для таго, каб упэўнена адчуваць сябе заўтра. Патрэбна мінімум гектараў 100, але гэта ні ў якім разе не мяжа. Таму, каб больш упэўнена глядзець у будучыню, бралі яшчэ плюс 30 гектараў на пасеў ільну ў суседнім калгасе. І тым не менш, нягледзячы на ўсю мышыную валтузню, як выказаўся адзін з сялян, фермерскі квартэт праз пяцігодку збіраецца разлічыцца з дзяржавай за ўсе свае пазыкі (іх крэдыт складае 1,5 млн. рублёў).

А ўвогуле, як сказаў суправаджаючы Шушкевіча старшыня райвыканкома Кіберман, у Барысаўскім раёне эпіцэнтр гаспадарання з перавагай у адзін голас зрушыўся ў бок фермерскіх угоддзяў. Адпаведна, колькасць калгасаў і саўгасаў—35, фермерскіх гаспадарак — 36. Праўда, дзякуючы ўсё таму ж матэматычнаму складу розуму Станіслава Станіслававіча, ход канём быў паспешлівым. У той час як сярэдняя плошча калгасных зямель складае 2,5 тысячы гектараў у разліку на кожную гаспадарку, фермер з вялікай цяжкасцю выбівае дзесяць гектараў.

Не засталіся без увагі кіраўніка рэспублікі і яшчэ два адданыя зямлі мужчыны. На тэрыторыі калгаса «Лошніца» размясціліся зямельныя ўгоддзі Аляксандра Голуба і Сяргея Грука. Першы мае ў сваім актыве 11 гектараў пашы, другі — у два разы больш. Праблемы тыя ж: тэхнічная беднасць, зямельны голад і неразуменне з боку начальства. Але які першы блін не бывае камяком?

І апошнім пунктам у доўгім падарожжы па Барысаве і раёне стаў саўгас-камбінат з назвай у стылі «рэтра» — «60 год БССР».

Гіганцкі комплекс, пабудаваны яшчэ 15 гадоў назад па амерыканскай тэхналогіі з прыцягненнем замежных спецыялістаў, працягвае ўражваць сваімі магутнасцямі. Разлічаны на гадоўлю 112 тысяч свіней у год, ён амаль кожны сезон працуе на поўную магутнасць. Тут толькі застаецца развесці рукамі: куды ўвогуле дзяваецца такая прорва мяса?

***

Прапануем вам некалькі найбольш цікавых пытанняў і адказаў на іх, дадзеных Станіславам Шушкевічам у час сустрэчы на барысаўскай зямлі.

**— Калі будзе надрукаваны першы беларускі пашпарт?**

— Я таксама гэтага вельмі чакаю, але, на жаль, да гэтай работы былі прыцягнуты некаторыя дылетанты, таму і праца ідзе не так хутка, як хацелася б.

**— Як вас называць афіцыяльна?**

— «Пан» мне не падабаецца, ад «таварыша» яшчэ не адвык, а да «спадара» не прызвычаіўся. Але не пакрыўджуся ні на што.

**— Як вы ставіцеся да заявы З. Пазняка аб поўнай адстаўцы Вярхоўнага Савета РБ?**

— Мне здаецца, што гэта крызіс падыходу пэўнай групы БНФ да таго, што адбываецца ў ВС. І я не ведаю, як такое адбылося з Зянонам Станіслававічам, бо я заўсёды паважаў яго, але факт застаецца фактам. Тут ён яўна памыліўся. Цяперашні ВС прыняў рад пастаноў, аб якіх марыў БНФ. Таму ў такім разе прыйдзецца і герб скідаць, і сцяг спускаць, і святы непатрэбныя вяртаць, і падаткі не будзем плаціць... Дык што, да гэтага заклікае Пазняк? У даным выпадку гэта — перабор, а перабор — не што іншае, як крызіс ідэі. Таму перш за ўсё трэба разабрацца ў самім сабе.

**З месца падзей Ігар КАРНЕЙ і Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## «Дайце магчымасць, і я разгружу ўсе клінікі Мінска ад хворых на радыкуліт» —

**сцвярджае народны лекар, член Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў І. П. КРУПІНСКІ**

**Ці зведваў з вас хто хоць раз, што за штука радыкуліт? Як кажуць, не дай Бог! Быццам агнём паліць спіну— ні сагнуцца, ні разагнуцца, ні кроку ступіць. Праклятая немач іншы раз даймае тыдзень, другі, а нярэдка і цэлыя месяцы. І тады жыццё губляе ўсякі сэнс. Гавару так не з чужога голасу — сам не аднойчы пластом ляжаў. Не дапамагалі ні мазі, ні іншыя лекі. А тут усяго некалькі сеансаў—і як рукой зняло.**

**Пазнаёміўся з народным лекарам Іванам Пятровічам Крупінскім зусім выпадкова. Неяк пазваніў мне прэзідэнт Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў Васіль Конанцаў і параіў сустрэцца з самым сапраўдным майстрам мануальнай тэрапіі. Сапраўды, ён не толькі аказаўся выдатным спецыялістам, але і цікавым субяседнікам.**

— Мануальная тэрапія патрабуе перш за ўсё выключнай самаахвярнасці, гатоўнасці прыйсці на дапамогу кожнаму, хто мае ў ёй патрэбу, — сцвярджае Іван Пятровіч. — Пасля многіх тыдняў, а нярэдка і месяцаў знясільваючай болі, якая даводзіць чалавека да крайнасці, многія не вераць, што ўсяго за некалькі сеансаў можна паставіць на ногі хворага на радыкуліт, а за 7—10 разоў — наогул поўнасцю вылечыць. Да таго ж, да мяне звяртаюцца як правіла тыя, хто неаднаразова лячыўся ў клініках і зусім расчараваўся не толькі ў магчымасцях нашай медыцыны, але і ў тым, што праклятая немач наогул калі-небудзь будзе пераадолена.

Сярод соцень пацыентаў, што прайшлі праз мае рукі, запомніўся лётчык з вуліцы Сядых у Мінску. Былы штурман у свае 32 гады застаўся інвалідам ІІ групы — так даняў яго скаліёз і левабаковае люмбага (паяснічнае выпаданне дыска). А калі ўлічыць, што на руках трое малых дзяцей, пракарміць якіх на яго інвалідную пенсію ой як няпроста, то было ад чаго прыйсці ў адчай. На сеанс з'явіўся не адзін — з жонкай. У яе быў моцны хандроз. Усяго за некалькі сеансаў абодвух паставіў на ногі. Нядаўна ён пазваніў мне па тэлефоне і з радасцю паведаміў, што з інваліднасцю пакончана, і ўсур'ёз ставіцца пытанне аб яго вяртанні ў авіяцыю.

А колькі ўдзячных слоў выслухаў ад студэнта РТІ Аляксея. І яго лёдзь не даканаў артроз правай нагі. Як ён сам апавядаў, у час службы ў арміі ўпаў, моцна ўдарыўся хвастцом. Лячыўся ў многіх клініках, наглытаўся аналгіну, но-шпы, дземідролу... Толькі палёгкі не адчуваў, наадварот, станавілася ўсё горш і горш. Некалькі сеансаў мануальнай тэрапіі — і хваробы як не было.

**— Бытуе такое выслоўе: ад радыкуліту не паміраюць, паміраюць з радыкулітам. Маўляў, няма лякарства ад гэтай немачы.**

— Заўважце, гэты тэзіс ахвотна паўтараюць і медыкі, тым самым прызнаючы сваё бяссілле перад гэтым захворваннем. Але не такая ўжо і бяскрыўдная рэч гэты самы радыкуліт. Пастаянны боль даводзіць іншага да ачмурэння. Ды і сэрца не заўсёды вытрымлівае. А колькі пакутнікаў на артроз, артроз тазасцегнавых суставаў, які без належнага лячэння можа перарасці ў коксаартроз — распад шыйкі бядра тазасцегнавога сустава! У такім выпадку, як правіла, робіцца аперацыя. Пашкоджаная шыйка бядра выдаляецца, а яе месца займае аналагічнае прыстасаванне з металу. І ты ўжо інвалід: некалькі месяцаў на мыліцах, а потым пажыццёва з кавенькай. Я ж вылечваю коксаартроз, асабліва ў ранняй стадыі, шляхам мануальнай тэрапіі.

**— Некаторыя хворыя на радыкуліт заяўляюць, што ім прапануюць зрабіць пункцыю. Адзін знаёмы журналіст расказваў, як у свой час гэта прапанавалі зрабіць для яго аднагадовай дачкі. Добра, што не даў на гэта згоды. Цяпер дзяўчынка ўжо амаль дарослая. Цяжка сказаць, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б ён даў згоду на тую пункцыю...**

— Пункцыя, — узяцце мозга для аналізу. Лічу, што рабіць гэта можна толькі ў крайнім выпадку, скажам, пры цяжкай форме менінгіту, калі жыццё чалавека, што называецца, вісіць на валаску. Але рызыкаваць не трэба — усё ж умяшанне ў святую святых — мозг. Здараецца, чалавек губляе прытомнасць ад моцнага болю. Падазрэнне на менінгіт. А раптам у яго выпадзенне пятага пазванка? Прасцей зрабіць рэнтгенаўскі здымак. Для спецыяліста — карціна ясная. А іншы ўрач дае накіраванне на правядзенне пункцыі. Вядома, з яе дапамогай можна паставіць правільны дыягназ. Але якой цаной!

Нямала пакут прыносіць людзям грыжа Шморля. Увогуле яна выконвае ахоўную ролю, прадухіляе ад унутранага выпадання пазваночнага дыска.

Але нярэдка ад празмернай нагрузкі ці так з якой нагоды пяты пазванок выпадае, пры гэтым зашчамляе гэтую самую грыжу Шморля. Пачынаецца яе запаленне. А там жа мноства нервовых канчаткаў. Боль — пякельны. Дапамагчы хвораму ў гэтым выпадку можна толькі прымяняючы мануальную тэрапію.

**— А як вы прыйшлі да гэтай самай мануальнай тэрапіі? З чаго ўсё пачалося?**

— У пачатку пяцідзесятых гадоў я вучыўся ў Мінскім медінстытуце. Час быў складаны, стыпендыі не хапала нават на гэты самы пражытачны мінімум. А многія з нас да таго часу паспелі адслужыць у войску, былі ўжо дарослымі людзьмі. І вось разам з двума сваімі неразлучнымі сябрукамі махнуў недзе пасля трэцяга курса ў далёкую Сібір на заробкі. Меркавалі: падзаробім крыху грошай — і прадоўжым вучобу. А лёс распарадзіўся пасвойму: затрымаліся там на доўгія гады. Як маглі, практыкавалі. Захапілі з сабой скальпелі, сякія-такія лекі — нас жа рыхтавалі на хірургаў. А неўзабаве жыццё падкінула выпрабаванне. І цяпер, амаль праз сорак гадоў, не магу спакойна ўспамінаць пра гэта. Хлапчук гадоў дзесяці ўпаў прама на лыжную палку. Пры гэтым яна прайшла праз усё цельца: трапіла ў грудзі, а выйшла на спіне. Да бліжэйшай бальніцы ў райцэнтры — недзе вёрст 200 з гакам. Зіма ў самым разгары, дарогі замяло. І медыкаў ва ўсёй акрузе, апрача нас — трох недавучаных студэнтаў — і ў вочы не бачылі. І ўсё ж мы зрабілі аперацыю, выратавалі таго хлопца. У раённай бальніцы, куды потым яго даставілі, адзначылі: усё зроблена як мае быць. Пайшла сярод мясцовых кержакоў пра нас добрая слава: з таго свету вярнулі хлопца! Ну і мы ў сваю чаргу нямала карыснага пераймалі ў іх, асабліва што датычыць народнай медыцыны. Яны гадамі ўрача ў вочы не бачылі, лячыліся сваімі метадамі, у асноўным травамі. Там упершыню пазнаёміўся з мануальнай тэрапіяй. Потым ужо самастойна выхадзіў аднаго кержака, што трапіў пад хлыст на лесапавале. Накрыла бедалагу бервяном, здаецца, жывога месца не было. Папрацаваў над ім раз, другі, чалавек ажыў:

— Ох, лешак окаянный. А дышать-то стало легче...

Пачуць ад яго такія словы — лепшая ўзнагарода! А потым ужо ў 1975 годзе даведаўся пра народнага лекара Касьяна з Украіны. Нейкі ўнутраны голас падказаў: трэба ехаць туды. Першы раз прабыў там месяцы са тры, пераймаў веды па мануальнай тэрапіі, пад яго назіраннем сам праводзіў сеансы. Потым ездзіў яшчэ некалькі разоў.

**— Чаму вы прымаеце наведвальнікаў у асноўным у сябе дома або самі выязджаеце на выклік? І турбот колькі, і часу шмат марна губляеце, сіл. Вы ж ужо не малады чалавек. Чаму афіцыяльная медыцына не спяшаецца пайсці насустрач такім, як вы, народным лекарам?**

— Сапраўды, сваіх пацыентаў я прымаю дома, іншы раз выязджаю на выклік, — у асноўным, калі чалавек сам не ў стане прыехаць, ці так па якой прычыне. Што датычыцца адносін медыцынскіх устаноў... Новае заўсёды цяжка прабівае сабе дарогу. Сярод медыкаў, у тым ліку і тых, што на кіруючых пасадах, нямала людзей з традыцыйным старым мысленнем. Гэта як застарэлы радыкуліт, ад якога ой як няпроста пазбавіцца. Вядома, калі б прадставілася такая магчымасць і мне выдзелілі месца, скажам, у клініцы ці паліклініцы, дзе б я мог прымаць хворых, тады б за некалькі месяцаў змог бы разгрузіць сталічныя клінікі ад хворых на радыкуліт. І гэта не дзеля прыгожага слоўца, не выхваляннe. Пакуль ёсць сілы, мог бы папрацаваць.

**— І апошняе. У кожнага вопытнага майстра ёсць вучні. А як у вас? Ці ёсць ахвотнікі пераняць ваш вопыт, веды?**

— Калі шчыра, асаблівых ахвотнікаў на гэта няма.

А ўвогуле, я не адмаўляюся ад вучняў. Калі ёсць жадаючыя прысвяціць сябе высакароднай справе служэння людзям, гатовы дапамагчы. Толькі, паўтараю, гэта няпростая справа, яна патрабуе нямала сіл і часу, поўнай самаадданасці.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ — КАВАЛЕРЫ ПОЛЬСКАГА ОРДЭНА

**Два вядомыя беларускія навукоўцы і грамадскія дзеячы Адам Мальдзіс і Вячаслаў Вярэніч днямі сталі кавалерамі ордэна Заслугі Рэспублікі Польшча.**

Адам Восіпавіч Мальдзіс — дырэктар Нацыянальнага навукова - асветніцкага цэнтра імя Скарыны, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — шмат зрабіў у галіне даследаванняў узаемасувязі і ўзаемаўплыву беларускай і польскай культур. Вячаслаў Лявонцьевіч Вярэніч — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН РБ — адзін з буйнейшых даследчыкаў этнічна - моўных і культурных кантактаў палякаў за межамі этнічнай тэрыторыі на ўсходзе, —у тым ліку на Беларусі.

Ордэн Заслугі — адна з новых польскіх узнагарод — устаноўлена сеймам у пачатку мінулага года і мае пяць ступеняў. Беларускія навукоўцы ўдастоены Камандорыі ордэна Заслугі — трэцяй ступені гэтай высокай адзнакі Польшчы

Узнагароды ад імя Прэзідэнта Леха Валенсы ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыла Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Эльжбета Смулэк.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## РАДЫЁФАКТ

У Мінску завяршыў работу трохдзённы семінар па прыватызацыі. Яго наладзілі Інстытут эканамічнага развіцця Сусветнага банку, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай рэформе, дасягненню суверэнітэту і незалежнасці, Міжнародны інстытут менеджменту, Камітэт па кіраванню дзяржмаёмасцю пры СМ Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі семінара заслухалі даклады і меркаванні А. Котавай, «міністра» прыватызацыі Масквы, вядучых зарубежных экспертаў Бернарда Сноў, Кшыштафа Ліса і іншых.

***

**Відаць, кандыдату ў народныя дэпутаты Расіі, вядомаму прадпрымальніку Канстанціну Баравому давядзецца паўстаць перад судом.**

**Іск супраць яго на суму ў адзін мільярд рублёў рыхтуецца прад'явіць суду іншы кандыдат у народныя дэпутаты, краснадарскі вучоны Мікалай Алешын. Як сказана ў заяве, што паступіла ў акруговую выбарчую камісію, прычынай з'явілася парушэнне Баравым перадвыбарнай этыкі ў час аднаго з яго публічных выступленняў перад выбаршчыкамі.**

***

Аказваецца, у следчым ізалятары Магілёўскай вобласці ёсць і хлеб, і мяса. І нягледзячы на тое, што тут за апошнія два-тры гады ў два разы павялічылася колькасць «падапечных», на ўзроўні жыцця насельніцтва СІЗО, гэта не адбілася. Дзякуючы працэсу дэмакратызацыі, многія жыхары СІЗО цяпер маюць магчымасць не толькі выпісаць газеты, але пры жаданні могуць абзавесціся нават тэлевізарам.

***

**Злучаныя Штаты Амерыкі наблізіліся да ажыццяўлення яшчэ адной фантастычнай ідэі Жуля Верна, якую вялікі французскі пісьменнік выказаў больш чым стагоддзе назад у сваім творы «С пушки на Луну».**

**У Ліверморскай лабараторыі радыяцыі імя Лоўрэнса (штат Каліфорнія) завяршаюцца прыгатаванні да выпрабавання гіганцкай гарматы, даўжыня ствала якой дасягае 47,2 метра. З яе дапамогай вучоныя маюць намер дастаўляць на каляземную арбіту розныя грузы значна хутчэй і танней, чым зараз гэта ўдаецца амерыканскім касмічным караблям шматразовага выкарыстання.**



## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Сяргей БУЛАНЦАЎ. Планеты спрыяюць КАЗЯРОГУ, што аказаўся без справы. Мужчыну прапануюць работу, няхай спярша часовую, прымайцеся за яе. Жанчыне таксама трэба згадзіцца з любой прапановай аб працаўладкаванні, інакш змарнееце ад няпэўнасці. 22 кастрычніка жанатым парам трэба пазбягаць спрэчак. Астролаг папярэджвае: калі не спыніце «левую» сувязь, апынецеся ў вельмі непрыемным становішчы.**

**І на рабоце, і на сардэчным фронце ВАДАЛЕЯ чакае напружаная праца. Абстаноўка вакол мяняецца вельмі хутка, час пастаянна ўшчыльняецца. Калі здолееце ўзяць пад кантроль новыя рэаліі, на службу пачнеце ездзіць на казённым аўтамабілі. У адносінах з любімым чалавекам — напружанасць і недастатковае разуменне. Не пускайце справу на самацёк і разганіце хмары сваркі, інакш непазбежны балючы разрыў.**

### ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — ПРАВЕРЦЕ

**Як уяўляецца астролагу, у панядзелак РЫБЫ — калі і не ўсе, дык многія — пачнуць новы тыдзень з флірту. Ён можа аказацца не такім ужо бяскрыўдным сваввольствам, якім бачыцца на першы погляд. У астатнім насоўваюцца галоўным чынам хатнія клопаты. Той, хто мае патрэбу ў грашах, атрымае ў пазыку неабходную суму. Давядзецца прымаць шмат гасцей. Відаць, вас чакае сямейная ўрачыстасць.**

**АВЕН дачакаецца абнадзейлівых звестак, звязаных з работай і кар'ерай. Гэта можа быць згода другога боку на заключэнне кантракту ці дазвольны вердыкт уладаў. Цяжкае заданне стане трамплінам поспеху. Блізкі сваяк зробіць нечаканы візіт. Калі даўнія палюбоўнікі не прымуць цяпер рашэння паспытаць радасць шлюбных вузаў, напрактыкаваны нядобразычлівец будзе мець поспех у намеры забіць паміж імі клін разлукі.**

**На небасхіле ЦЯЛЬЦА планеты размешчаны спрыяльна для ўступлення ў дагаворныя абавязацельствы і ажыццяўлення новых праектаў. Поспеху будзе спрыяць каштоўная інфармацыя, якая акажацца ў вашым распараджэнні. Прадстаўнікі прыватных фірмаў і рабочыя даб'юцца павышэння зарплаты ці дадатковых адначасовых выплат. Юная дама, музыканты настройваюць інструменты, каб сыграць вам вясельны марш Мендэльсона.**

**Спрыяльны ва ўсіх адносінах тыдзень, гаворыць астролаг, БЛІЗНЯТАМ. Будзеце мець вялікі поспех на дзелавой арэне, калі выберыце гібкую тактыку. Любы кантракт, падпісаны на працягу наступных сямі дзён, дасць цудоўныя вынікі. Узлёт чакае прадстаўнікоў прэсы і тых, хто так ці інакш звязаны з ЭВМ і электронікай. Астролаг вітае маму з нараджэннем сына.**

**РАК зможа забяспечыць свае доўгатэрміновыя інтарэсы. Неацэнную дапамогу акажа блізкі сябар. Пры ўступленні ў фінансавыя абавязацельствы старанна прадумайце тэрміны і ўмовы, інакш апынецеся ў пройгрышы. Праявіце адначасова мяккасць і непадатлівасць. Жанчыне раптам захочацца пераставіць мэблю ў кватэры. Каханыя дораць адзін аднаму радасць частых сустрэч.**

**Добры тыдзень чакае ЛЬВА. Прыкладна 19 кастрычніка атрымаеце добрую вестку. Час запоўнены мноствам прыемных клопатаў, настрой прыўзняты. Яго не сапсуе нават небывалы наплыў гасцей. «Другая палавіна» злёгку раўнуе і папракае ў недахваце ўвагі. Ранішні пацалунак і хоць адзін гваздзік увечары адновяць гармонію.**

**Аптымізм і ўпэўненасць рухаюць ДЗЕВАЙ. Паспяхова завершаная работа, прадказвае астролаг, прынясе вядомасць і грошы. Нядаўняя справа, распачатая ў парадку эксперымента, акажацца перспектыўнай. Вакол вас лунае дух рамантыкі, цеплыня і пяшчота любімага чалавека выклікаюць жаданне напісаць вершы. У асоб старэйшага пакалення магчымы задышка і болі ў грудзях.**

**Наўрад ці ШАЛІ пазбегнуць дробных непрыемнасцей. Не выключаны клопатны пераезд у новае службовае памяшканне. Наведае пачуццё незадаволенасці работай і адчуванне непрыкаянасці. Не паддавайцеся часовай слабасці і не кідайце свае цяперашнія занятк. Дама раптам пачне рэзка паўнець: дыета і рух. Абрыдлае адзіноцтва зменіцца цікавым знаёмствам.**

**Што зробіш, удача капрызная, суцяшае астролаг СКАРПІЁНА. Усё ўладзіцца, калі зведзяце да мінімуму сваю дзелавую актыўнасць. Ніякіх новых спраў і кантрактаў, тым больш — рызыкоўных здзелак. Калі ёсць надзейны партнёр, даручыце яму свае клопаты. На гэтым этапе наўрад ці ўдасца палепшыць жыллёвыя ўмовы. Жанчынам не трэба адчыняць дзверы незнаёмым людзям.**

**У СТРАЛЬЦА клопаты не тое каб непрыемныя, але бесталковыя. Пастаянна адцягваюць нейкія пуставатыя мерапрыемствы. Больш акуратна растрачвайце грошы, бо чакаемыя паступленні амаль дакладна затрымаюцца. Можа ўзнікнуць раптоўнае жаданне заняцца музыкай ці жывапісам. Нядаўняя хвароба бясследна знікне. Тым, чыя маладосць адшумела, трэба наведаць храм Божы і падумаць пра вечнае.**

## НАДВОР'Е

**17 кастрычніка**

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі невялікія дажджы. Тэмпература паветра ў Гродна — 7—9, Віцебску, Магілёве і Мінску — 8—10, Брэсце — 9—11, Гомелі — 10—12 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак захаваецца няўстойлівае надвор'е, часам дажджы. Тэмпература паветра ўначы 2—7, удзень — 5—10 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ, інжынер-сіноптык.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### «БІ-БІ-СІ»

◆ У Бірмінгеме пачынаецца нечарговая сустрэча ў вярхах кіраўнікоў ЕС, якая склікана прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі Мейджарам пасля валютнага крызісу ў мінулым месяцы.

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

**◆ У інтэрв'ю двум французскім штотыднёвікам Гарбачоў падверг рэзкай крытыцы Ельцына і яго паплечнікаў. Ён заявіў, што мільёны беспрацоўных хутка выйдуць на вуліцы і змятуць на сваім шляху ўсё, у тым ліку і так званых дэмакратаў, што знаходзяцца на чале ўлады.**

◆ Бундэстаг прыняў праграму дзеянняў па нармалізацыі становішча вакол бежанцаў. У ФРГ прыязджаюць каля 300 тысяч бежанцаў у год. Хоць застацца дазваляюць адзінкам. Тысячы і тысячы атрымліваюць дах над галавой, харчаванне, вопратку, кішэнныя грошы, меддапамогу. Прытым нярэдка на год і больш. З прыбыццём бежанцаў ва Усходнюю Еўропу яны сталі падвяргацца насіллю. Цяпер вядзецца камп'ютэрызацыя бежанцаў, у выніку чаго ўдаецца затрымліваць людзей, якія атрымліваюць грошы і дапамогу адразу ў некалькіх месцах ці па чарзе. Але немцы не хочуць поўнасцю адмовіцца ад чужаземцаў, бо тыя працуюць у шахтах, ля мартэнаў і г. д.

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

**◆ Урад Румыніі выказаў заклапочанасць з выпадку тэлевізійнай заявы Ельцына наконт таго, што было б вельмі добра, каб Малдова прадаставіла права самавызначэння Прыднястроўю.**

✦ Прэзідэнты Афганістана і Узбекістана дамовіліся ў Ташкенце разам будаваць чыгунку і шашу, якія б злучылі Узбекістан з Індыйскім акіянам. Гэта будаўніцтва будзе каштаваць амаль 10 млрд. долараў.

**✦ Папа рымскі завяршыў шасцідзённы візіт у Дамініканскую рэспубліку, дзе прыняў удзел у святкаванні адкрыцця Калумбам Амерыкі.**

